*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 35 (247)

30 жніўня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў




○ **ПЕРШАЯ НА БЕЛАРУСІ НЕДЗЯРЖАЎНАЯ ШТОГАДОВАЯ ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА БУДЗЕ ЎРУЧАНА ЛАЎРЭАТАМ У ПАЧАТКУ ВЕРАСНЯ.** Камісія па прэміях на чале з Васілём Быкавым ужо вядзе сваю работу. Камісія павінна вызначыць імёны чатырох чалавек, якія і атрымаюць прэміі ў памеры 500 доляраў ЗША і медалі.

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫКАЗАЎ НАМЕР ПРАВЕСЦІ Ў ВЕРАСНІ ГЭТАГА ГОДА «КРУГЛЫ СТОЛ» з удзелам буйных** палітыкаў нашай краіны, лідэраў палітычных партый, грамадскіх рухаў і саюзаў. Па задуме Прэзідэнта, удзельнікам «круглага стала» трэба будзе абмеркаваць шэраг эканамічных і палітычных праблем, **накіраваных на ўмацаванне стабільнасці і** грамадскай згоды ў Беларусі. Добра, каб нешта ўрэшце атрымалася.*

○ **НА ЧЭМПІЯНАЦЕ СВЕТУ ПА ЛЁГКАЙ АТЛЕТЫЦЫ Ў ШВЕЦЫІ ЗБОРНАЯ КАМАНДА БЕЛАРУСІ ЗАНЯЛА ЎСЛЕД ЗА ЗБОРНАЙ ЗША АЖНО ДРУГОЕ МЕСЦА,** апярэдзіўшы каля двухсот краін. Зборная Беларусі на спаборніцтвы ў Швецыю прыехала пад бел-чырвона-белым сцягам, а вярталася пад лукашэнкаўскім.

○ ***ФОНДУ ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ СПОЎНІЛАСЯ ТРЫ ГАДЫ.***

○ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАДТРЫМАЎ МАТЭРЫЯЛЬНА ЗБОРНУЮ НАШАЙ КРАІНЫ ПА БРЭЙН-РЫНГУ,** якая асаблівымі поспехамі пакуль што не вылучалася сярод іншых каманд. Акрамя дзяржаўных грошай, наш Прэзідэнт даў камандзе на дарогу ў Расію яшчэ два свае сцягі. Цікава, ці з'явяцца яны на трыбунах, бо да апошняга часу балельшчыкі беларускай каманды размахвалі толькі бел-чырвона-белымі?

○ ***ДРУГІ ТЫДЗЕНЬ НЕ ВЫХОДЗІЦЬ МЕНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА «ДОБРЫ ВЕЧАР».*** Няма грошай. Сумна.

○ **ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ ПРЫНЯЛА РАШЭННЕ АБ ПРАВЯДЗЕННІ 9 ВЕРАСНЯ НЕЧАРГОВАГА З'ЕЗДА ГЭТАЙ ПАРТЫІ.**

○ ***У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» САКРАТАР ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ПАРТЫІ КАМУНІСТАЎ БЕЛАРУСІ СЯРГЕЙ КАЛЯКІН СКАЗАЎ:** «Мы выступаем за рэальны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, але ў той жа час мы паважаем выбар народа, зроблены на рэферэндуме ў 1990 годзе. Мы разумеем, што СССР няма, як бы гэтага каму ні хацелася і як бы балюча гэта ні было. Сёння рэальна існуе самастойная дзяржава». Разумець то разумеюць, што ніколі не вернецца тое, што ўжо канула ў Лету, але ўсё роўна хочуць зацягнуць наш народ у «светлае мінулае».*

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Мала засталося да канца падпіснай кампаніі на перыядычныя выданні на чацвёрты квартал 1995 года. Калі Вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», то раім гэта зрабіць сёння. Кошт «НС» на 1 месяц — 2000 рублёў, на 3 месяцы — 6000 рублёў.**
**Наш індэкс — 63865.**

*«НА ЧОРНЫХ ЛЯДАХ»* Стар. 3.

*«ВАЖКІЯ ДОКАЗЫ»* Стар. 7.

*Маладая Беларусь*

## Не здраджваць!

Мне ўсяго 16 гадоў, але я ўжо зведала боль і сорам за людзей, якія імкнуцца задушыць беларускае слова. Слова, на якім заўсёды размаўлялі нашы дзяды і прадзеды, на якім спявалі калыханкі нашым бацькам.

Бездапаможнасць, безнадзейнасць і жах — гэта ўсё, што засталося ў маёй душы пасля рэферэндуму. Рэферэндуму, які, як мне здавалася, паставіў кропку над усім.

Прайшоў час... І я зразумела, што гэта не кропка, а ўсяго коска ў шматпакутнай, шматвяковай гісторыі Беларусі. Балючая, ганебная, але коска! І менавіта ад нас, сённяшніх 16-гадовых, залежыць, каб гэтая коска ніколі не ператварылася ў кропку. Мы яшчэ не маем права галасаваць, але мы маем права на іншае. Права змагацца. Змагацца за сябе, за мову, за сімволіку, за жыццё. Мы абавязаны рабіць гэта дзеля сваёй будучыні, дзеля будучыні нашых дзяцей.

Зараз цяжка ўсім. І нам, як ніколі, патрэбна быць разам. Разам мы абавязаны змагацца і не рабіць маленькіх здрад. Маленькая здрада — гэта калі ты баішся адказаць па-беларуску, бо на цябе адразу звернуць увагу. Маленькая здрада — гэта калі не гаворыш з сябрамі на роднай мове, баючыся, што цябе не зразумеюць. Маленькая здрада — гэта калі ты **сарамліва апускаеш вочы, калі пры табе зневажаюць матчыну мову.**

**Давайце не рабіць гэтых маленькіх здрад, і тады коска ніколі не ператворыцца ў кропку.** І будзе жыць Наша Слова.

**Вольга АНЦЫПОВІЧ,**
**вучаніца 153 школы г. Мінска.**

## Вучыцца па «макулатурных» падручніках?

Прэзідэнт Беларусі «глыбока вывучыў» матэрыялы камісіі, што экспертавала падручнікі, уведзеныя ў школьныя праграмы пасля 1992 г. Вынікам гэтага вывучэння сталася распараджэнне аб выключэнні гэтых падручнікаў з сістэмы адукацыі — вядома ж, палітрукі Савецкай Арміі і лектары «обшчаства» «Знание» выхоўваліся па іншых. Цяпер выкладчыкі, навукоўцы, студэнты, навучэнцы мусяць вышукваць уцалелыя ад макулатурнага лёсу падручнікі «старога ўзору», так бы мовіць, «правільныя». Да чаго гэта прывядзе — няцяжка здагадацца. Калі яшчэ першакласнікі (і тое не з нацыянальна свядомай сям'і) спакойна прачытаюць па «Буквары» пра Вольны Кастрычнік і вялікую радзіму СССР, дык няцяжка прадбачыць рэакцыю на падобнае старшакласнікаў, свядомасць якіх ужо цяжка запраграмаваць вобразамі «драпежнага выскалу імперыялізму» і «дружнай сям'і народаў». Цікава, што згодна заявы намесніцы міністра адукацыі і навукі Т.Галко, карэспандэнту «Свабоды» ў міністэрстве нічога не ведалі пра экспертную праверку. Дасюль невядомы склад камісіі. З нагоды падзеі ў друку з'явілася заява пад назвай «Замах на будучыню нацыі», падпісаная такімі аўтарытэтнымі людзьмі, як Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Васіль Зуёнак і інш. «Тое, што пад забарону трапляюць усе без выключэння новыя падручнікі гуманітарнай сферы, перакрэслівае велізарную працу ў пераарыентацыі на сусветны ўзровень адукацыі, у вяртанні гістарычнай праўды і вызваленні грамадства ад дурману таталітарызму. Сістэма нацыянальнай адукацыі будзе адкінутая ў мінулае і не здолее даць краіне духоўна свабодных і высокаадукаваных грамадзянаў, гатовых да жыцця ў сучасным дэмакратычным свеце», — гаворыцца ў заяве.

Што ж, Беларусь зрабіла яшчэ крок назад, у мінулае, а значыць — да самазнішчэння.

**А.М.**

***Аўтарытэтна***

## Запасы мінулай трываласці вычарпаны

«Нельга разлічваць, што эканамічныя рэформы можна правесці паступова. Нельга, таму што рэзервы існавання нежыццяздольнай эканамічнай сістэмы ўжо вычарпаны і яна проста разбураецца.

Цяжка разлічваць на эканамічную дапамогу Расіі. Спажыванне сыравіны і энерганосьбітаў там вышэй сусветных. Дзяшовыя пакуль энергарэсурсы Расіі — гэта вынік праядання асноўных фондаў яе паліўна-энергетычнага комплексу. У бліжэйшыя год-два расійскія энергарэсурсы могуць стаць ці даражэйшымі за сусветныя, ці іх не будзе наогул».

**Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ, прэзідэнт акцыянернага таварыства «Амкадор».**
*(«Народная воля», № 1,95)*

## Свята беларускае пісьменнасці і друку

З нагоды Дня беларускае пісьменнасці і друку 3 верасня ў Тураве, на радзіме Кірылы Тураўскага, адбудуцца ўрачыстасці, а 5—6 верасня ў Полацку пройдзе Міжнародная навуковая канферэнцыя «Полацкая зямля як соцыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці». Секцыі будуць такія: 1. Полацкая зямля як цэнтр узнікнення і развіцця беларускага этнасу і дзяржаўнасці; 2. Хрысціянскія традыцыі на Полаччыне; 3. Неўміручая спадчына; 4. Полацкая культура ў кантэксце культуры народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Удзельнічаюць: Полацкі дзяржаўны універсітэт, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны. Апроч беларускіх вучоных, удзел таксама бяруць вучоныя з Латвіі, Летувы, Польшчы, Расіі ды іншых краінаў.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

***Наш каляндар***

## Радзівілы

Славуты магнацкі род Радзівілаў павінен быць вернуты ягонай Бацькаўшчыне. Гэта не толькі натуральны ход гісторыі, але і наш маральны абавязак перад Радзівіламі, пераважным клопатам якіх была незалежнасць і дабрабыт беларускай дзяржавы.

## 550 гадоў таму

У так званым Растоўскім летапісе пад 1445 годам чытаем: «Приходили литва к лузъ панъ судивой, панъ **родивилъ осиковичь**, андрюшко мостиловичь, **андрей ісаковичь, якубъ раловичь,** миколай немировъ, захарій іоанновичь кошкинъ, а рати с нимъ седмъ тысящь. и бывши подъ козелским да и под колугою, да не учинили ничего, о оттоле пришли в суходровь...»

Гэта, відаць, самае першае згадванне прашчура славутага магнацкага роду. За мінулыя стагоддзі Радзівілы, рыцары і дзяржаўныя дзеячы, будавалі і баранілі Вялікае Княства Літоўскае.

## Год Мікалая Радзівіла Чорнага

Сёлета ў лютым Камісія па культуры БНФ «Адраджэньне», беларускі евангелічны рэфармацкі збор, Згуртаванне беларускай шляхты, Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» наладзілі навуковую акадэмію «Мікалай Радзівіл Чорны і яго час» (4.II. 1515 — 28.V.1565). Выступоўцы грунтоўна разгледзелі ягоны жыццёвы шлях, распавялі пра змаганне з захопнікамі, імкненне стварыць дзяржаўную канфесію Вялікага Княства Літоўскага, а таксама пра адстойванне суверэнітэту ВКЛ ды распрацоўку зямельнай рэформы (была падрыхтавана «Устава на валокі»).

Тады ж быў прыняты «Зварот да грамадства і ўрада Беларусі», у якім 1995 год абвяшчаўся Годам Мікалая Радзівіла Чорнага ды выказвалася пажаданне, каб беларускія дзяржаўныя і мясцовыя органы кіравання ды ўстановы культуры, навукі і адукацыі годна ўшанавалі памяць адданага патрыёта нашай Айчыны.

## Багуслаў Радзівіл

Сёлета споўнілася 375 гадоў Багуславу Радзівілу (3.V.1620 — 31.XII.1669), «князю на Біржах,

*(Заканчэнне на с.3.)*

Права

# Закон і сімволіка

*(Заканчэнне.)*

Канфлікт з міліцыяй, прычына якога — ужыванне сімволікі, дазволенай аднымі законамі і скасаванай адпаведна іншым, — справа, якая можа датычыць і нашых чытачоў.

Што вас чакае ў гэтым выпадку? Законам прадугледжана затрыманне парушальнікаў на тэрмін да трох гадзін для высвятлення іх асобы. Магчымыя ў сувязі з гэтым ускладненні звычайна маюць выгляд непадпарадкавання і супраціву міліцыі — маецца на ўвазе нецэнзурная лаянка, фізічны супраціў падчас затрымання і г.д. Увага: невыкананне вамі патрабаванняў супрацоўнікаў МУС, выказаных мовай, якой вы не валодаеце ці разумееце абмежавана, НЕ з'яўляецца парушэннем закона. Міліцыянт, як і кожны дзяржаўны служачы, выконваючы свае абавязкі, мусіць звяртацца да вас па-беларуску ці па-расійску — мовай, якой вы валодаеце лепш.

Калі вас спрабуюць затрымаць людзі ў цывільным, вы проста абавязаны запатрабаваць у іх дакументы, што пацвердзяць прыналежнасць іх уладальнікаў да органаў аховы парадку.

Нарэшце, вы ў пастарунку. Калі вы лічыце дзеянні міліцыі няслушнымі і ў далейшым маеце намер звярнуцца ў вышэйшыя інстанцыі, дапільнуйце, каб факт затрымання быў занатаваны і вашае імя было запісана ў кнігу рэгістрацыі затрыманых. На працягу трох гадзін вашага знаходжання ў міліцыі яе супрацоўнікі мусяць скласці пратакол аб вашым затрыманні і прапанаваць вам падпісаць яго. Але рабіць гэта вы не абавязаны, тым больш у выпадку, калі лічыце, што апісанне ў ім падзей не адпавядае рэчаіснасці. У выпадку, калі ў пратаколе робіцца запіс аб затрыманні вас у стане удзеяння алкаголю ці наркотыкаў, вы маеце права патрабаваць правядзення спецыялізаванай экспертызы.

Разгляд справы аб адміністрацыйным парушэнні адбываецца звычайна хутка, на наступны дзень. Але прысутнічаць на ім вы абавязаны, толькі атрымаўшы позву і распісаўшыся за гэта. Адмаўленне падпісваць позву не з'яўляецца падставай адсутнасці на разглядзе справы.

Разгляд справы можа выконвацца судом, адміністрацыйнай камісіяй пры райвыканкаме ці нават начальнікам раённага аддзела ўнутраных справаў. Памятайце, што:

— вы можаце патрабаваць разгляду справы па-беларуску альбо запрашэння перакладчыка;

— падчас разгляду адміністрацыйных справаў сведчанні трэціх асоб звычайна не ўлічваюцца — разглядаюцца толькі пратакол аб затрыманні і складзеная ў міліцыі пастанова аб накладанні адміністрацыйнага пакарання. Але ніхто не мае права перашкодзіць вам запрасіць на суд сведкаў, якія могуць пацвердзіць вашую невіноўнасць. Трэба, праўда, памятаць аб тым, што сярод супрацоўнікаў АМАП ці МУС не цяжка знайсці сведак, якія пацвердзяць вашую вінаватасць.

Па сканчэнні разгляду справы вам будзе ўручана судовая павестка з патрабаваннем выплаты штрафу альбо вызначаны тэрмін адміністрацыйнага арышту — ад 3 да 15 сутак.

У выпадку нязгоды з прысудам вы можаце аспрэчыць яго, згодна з артыкулам 267 КАПП, у раённай пракуратуры. Калі справа разглядалася адміністрацыйнай камісіяй альбо камісіяй для справаў непаўналетніх, прысуд можа быць аспрэчаны ў раённым выканаўчым камітэце ці ў раённым судзе. Рашэнне аб вашым пакаранні, прынятае начальнікам РАУС, можа быць перагледжана ў гарадскім аддзеле ўнутраных справаў ці Упраўленні ўнутраных справаў, ці ў судзе. Тэрмін падачы заявы аб пераглядзе справы — 10 дзён з дня прыняцця пастановы аб адміністрацыйным пакаранні.

І яшчэ аб ужыванні сімволікі. Што могуць зрабіць тыя з чытачоў «Нашага слова», якія, паважаючы законы сваёй краіны, назіраюць выпадкі парушэння іх іншымі? Калі вы бачыце людзей, якія, парушаючы артыкул $167^2$ Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, карыстаюцца, напрыклад, сцягам СССР ці штандарам дома Раманавых, нясуць транспаранты з заклікамі да змены дзяржаўнага статуса Беларусі ці абмежавання правоў беларускамоўнай часткі насельніцтва, дык ваш грамадзянскі абавязак — звярнуцца па дапамогу да прадстаўнікоў праваахоўных органаў і засведчыць парушэнне закона.

**Падрыхтаваў У.П.**

# «Славянская вёска-95»

*(Гутарка з кандыдатам філалагічных навук В.М.Курцовай)*

**— Вераніка Мікалаеўна, у чэрвені Вы працавалі дырэктарам Гуманітарнага летніка славянскіх моў «Славянская вёска-95». Летняя школа беларусістыкі», арганізаванага па ініцыятыве Гуманітарнай асацыяцыі «Славянскі дом». Ці не дубліруе «Славянскі дом» дзейнасць Беларускага таварыства «Дружба»?**

— Гэта абсалютна розныя па характары сваёй дзейнасці арганізацыі. Таварыства «Дружба» ў нейкай ступені — установа элітарная, якая ладзіць імпрэзы, сустрэчы прадстаўнікоў пераважна дзяржаўнага ўзроўню або дзеячаў навукі, культуры. Дзейнасць Гуманітарнай асацыяцыі спрыяе ўсталяванню сяброўскіх сувязей паміж дзецьмі і садзейнічае, найперш, вывучэнню славянскіх моў. Сёння славянскі свет мае унікальную моўную сітуацыю. Стварыла яе, як ні парадаксальна, наша Перабудова. Сутнасць гэтай сітуацыі ў наступным. Як вядома, да перабудовачнага перыяду вывучэнне расійскай мовы было дырэктыўна прымусовым прадметам навучання ва ўсіх тыпах навучальных установ славянскіх дзяржаў. Які б гэты прымус ні быў кепскі, але было ва ўсім тым і залатое зернетка. Многія пакаленні славян маглі зносіцца паміж сабой без усялякіх дадатковых перакладчыкаў, спрыяла таму веданне расійскай мовы. Цяпер сітуацыя карэнным чынам змянілася. Расійскую мову ў многіх краінах славянскай супольнасці ўжо не вывучаюць альбо вывучаюць вельмі абмежавана. Таму, відаць, праз нейкі час мы з'явімся сведкамі неверагоднейшай сітуацыі: славяне будуць размаўляць паміж сабою на англійскай ці якой-небудзь іншай найбольш папулярнай і вядомай у свеце мове. Каб гэтага не адбылося, ужо сёння Асацыяцыя дапамагае наладзіць для жадаючых вывучэнне генетычна роднасных моў. Але гэта адзін бок справы. Другі — мы імкнёмся, каб і за межамі СНД ведалі пра нашу рэспубліку і яе мову. Таму для жадаючых пазнаёміцца бліжэй з ёй, пачуць жывое беларускае слова і працавала Летняя школа беларусістыкі. Да нас прыязджалі прадстаўнікі славянскіх дзяржаў. Усе яны пераважна аспіранты і студэнты факультэтаў славістыкі. Гэта тыя энтузіясты, якія будуць прапагандаваць беларускае слова ў сябе на радзіме.

**— Але, здаецца, з боку дзяржавы адсутнічала хоць бы якая зацікаўленасць да мерапрыемстваў такога кшталту?**

— Сапраўды так. Яна выяўляецца ў адсутнасці паслядоўнага і мэтанакіраванага вырашэння ўласнамоўных нацыянальных праблем у межах рэспублікі, прапаганды беларускай мовы на міжнародным узроўні, у адсутнасці выдаткавання матэрыяльных сродкаў на арганізацыю разнастайных асветніцка-адукацыйных мерапрыемстваў па вывучэнні беларускай мовы замежнымі грамадзянамі, якія жадаюць яе засвоіць. Таму, усведамляючы важнасць такіх курсаў як з боку практычных патрэб дзяржавы Беларусь — наяўнасць штата перакладчыкаў у славянскай краіне-партнёры, — так і з культурна-асветніцкімі мэтамі, Гуманітарная асацыяцыя «Славянскі дом» узяла на сябе абавязак арганізаваць і правесці курсы беларусістыкі ўласнымі намаганнямі ў 1995 годзе ў межах летніка «Славянская вёска-95».

**— Што ўяўляе сабой праект «Гуманітарны летнік «Славянская вёска-95». Летняя школа беларусістыкі».**

— Навучанне і стажыроўка вучняў школ, навучэнцаў гімназій і ліцэяў Рэспублікі Беларусь дзевяці славянскім мовам у аздараўленчым летніку студэнтамі-філолагамі гуманітарных факультэтаў універсітэтаў славянскіх дзяржаў: Балгарыі, Македоніі, Польшчы, Сербіі, Славакіі, Украіны, Харватыі, Чэхіі, а таксама Летувы. Курс лекцый і практычных заняткаў па сучаснай беларускай мове і літаратуры, гісторыі Беларусі, мастацтву Беларусі для запрошанага міжнароднага педагагічнага калектыву.

**— З чаго складаецца праграма навучання славянскім мовам?**

— З распрацоўкі арыгінальных вучэбных методык па навучанні славянскай мове запрошанымі выкладчыкамі, набыцця і дастаўкі вучэбна-метадычных матэрыялаў, запрашэння выкладчыцкага калектыву з-за мяжы і чатырох экспертаў з Беларусі. У яе ўключаны былі таксама культурна-забаўляльныя, спартыўныя і экскурсійныя мерапрыемствы. Што да праграмы па навучанні беларускай мове і яе выкладанні, то яна ўключае: сучасную беларускую літаратурную мову, гісторыю развіцця граматыкі беларускай мовы, старажытную і сучасную беларускую літаратуры, гісторыю Беларусі, мастацтва Беларусі.

**— Якія Вашы планы на перспектыву?**

— Стварыць спецыялізаваную вучэбную ўстанову і яе філіялы па Беларусі (Славянскі ліцэй). На яе базе і дзейнічалі б летняя школа беларусістыкі ды гуманітарна-аздараўляльны летнік «Славянская вёска», а таксама Славянскі навучальна-асветніцкі цэнтр з інфармацыйным банкам для спецыялістаў, якія працуюць у гэтай галіне, і для жадаючых вывучаць славянскія мовы і культуры. Хачу таксама адзначыць, што з павелічэннем ліку жадаючых вывучаць славянскія мовы з'явілася альтэрнатыва ў сістэме сярэдняй адукацыі заходнееўрапейскім мовам на праграмным узроўні.

**Распытвала Л.БАРШЧЭЎСКАЯ.**

Дэбюты СМІ

# «Грамадзянін». Першы нумар, як першы блін...

Пазначаны месяцам ліпенем 1995 г., у сярэдзіне жніўня выйшаў у свет першы нумар штомесячнай газеты Грамадзянскай партыі — «Грамадзянін».

Не ведаю, як у каго, а ў мяне ад першага нумара гэтай газеты засталося дваістае пачуццё. Канешне, было вельмі цікава прачытаць бліц-інтэрв'ю «Аб'яднанне — не прыхамаць лідэраў, а памнажэнне намаганняў», дзе старшыня выканкама АДПБ Міхаіл Пліска, сябра Нацыянальнага камітэта ГП Леанід Злотнікаў, намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка, генеральны сакратар Эканамічнага суда СНД Віктар Ганчар, старшыня БСДГ Мікалай Статкевіч, адстаўны дыпламат Георгій Таразевіч, аглядальнік «БДГ» Аляксандр Фядута, сябра выканкама АДПБ Павел Данейка выказваюць свае меркаванні з нагоды працэсу аб'яднання Грамадзянскай і Аб'яднанай дэмакратычнай партый, які пачаўся. Цікаўнасць у чытача выкліча і гутарка рэдактара газеты Яўгена Агурцова з лідэрамі згаданых палітычных сіл Аляксандрам Дабравольскім (АДПБ) і Васілём Шлындзікавым (ГП). У гэтым жа ключы вытрыманы матэрыялы палітолага Валерыя Карбалевіча «Перадвыбарны блок — стратэгічная задача», эканамічнага аглядальніка Леаніда Злотнікава «Нават зайцы вучацца іграць на барабане».

Крыху ў баку ад названай групы публікацый знаходзяцца роздум паэта Міколы Мятліцкага «Выбары і выбар», гутарка Святланы Бартохавай («Мужчына не павінен быць бедным...») з вядомым беларускім драматургам, сустаршынём Грамадзянскай партыі Аляксеем Дударавым, фотарэпартаж Я.Крыжаноўскага і Я.Коктыша «Калі душы адзіныя» з касцёла святых Сымона і Алены.

Першае пачуццё ад усяго прачытанага — радасць. Найперш ад «бел-чырвона-белых» матываў, якія дамінуюць у кампазіцыйным рашэнні загалоўка газеты: у левым кутку на белым фоне контуру мяжы Беларусі — чырвоная паласа, а сам сімвал абрамлены аліўкаваю і дубоваю галінкамі; назва ж газеты, якая размяшчаецца побач, выпісана чырвонымі літарамі зноў жа на белым фоне. Шмат выказана слушных думак, скіраваных на тое, як збудаваць у Беларусі па-сапраўднаму незалежную краіну з рынкавай эканомікай (хаця, на мой погляд, абвінавачванні ў адрас БНФ «Адраджэньне» ў яго няздольнасці рэфармаваць, у яго закасцянеласці, прагноз адносна завяршэння гістарычнага часу Фронту памылковы).

Тым не меней, другім пачуццём было пачуццё шкадавання. Я чакаў, напрыклад, што беларускую мову спадар Яўген Агурцоў усё ж прадставіць паўней, чым яно ёсць у «Грамадзяніне». З трынаццаці матэрыялаў толькі адзін (!) — «Выбары і выбар» Міколы Мятліцкага напісаны з карыстаннем роднага слова. Калі не лічыць, што кароценькія меркаванні ў бліц-інтэрв'ю палітыкаў Юры Хадыкі і Мікалая Статкевіча публікуюцца па-беларуску. Ну і яшчэ на беларускай — загаловак газеты і выходныя дадзеныя выдання. Вось і ўсё.

Застаецца толькі шкадаваць, што нават беларускі драматург, галоўны рэдактар часопіса «Мастацтва» Аляксей Дудараў даў інтэрв'ю па-расійску газеце, якая не мае статуса расійскамоўнай і не з'яўляецца газетай іншай дзяржавы...

Што ні ён, ні Аляксандр Дабравольскі, ні Мікола Мятліцкі — шчырыя адукаваныя беларусы — не выказалі сваіх пунктаў гледжання з нагоды таго, што вынішчэнне беларускай мовы ў сярэдняй і вышэйшай школах — пярэчаць палітыцы стварэння на Беларусі па-сапраўднаму незалежнай і суверэннай дзяржавы, наадварот, патурае тым, хто зноў хоча надзець на наш народ каланіяльнае ярмо.

Затое пракідваюцца катэгарычныя заявы кіраўнікоў ГП, якія жадаюць падобнай незалежнасці роднаму народу, супраць нацыяналізму. Няўжо, шаноўныя, без мовы карэннай нацыі можна набыць існы, а не папяровы, суверэнітэт?

Як той казаў, не б'юць, але ідуць міма тых, хто б'е...

Няўжо, паважаны «Грамадзянін», на твой погляд, знішчэнне нашай мовы — гэта не парушэнне законаў, канстытуцыйных нормаў, правоў чалавека і правоў нацыі?

Нельга адной рукой трымаць бел-чырвона-белы сцяг, а другой закрыць вочы на антыбеларускую істэрыю, якая апанавала здраднікаў з ліку тых, хто мае ўладу, і палітыкаў з ліку дамарослых жырыноўцаў.

І апошняе. Гэта чыста эстэтычнае ўражанне ад газеты. На вялікі жаль, у выпуску малавата інфармацыі. Большасць артыкулаў ды інтэрв'ю развёрстаны з пераносам з адной на другую старонкі. Карацей, першы нумар атрымаўся беднаваты па тэматыцы.

Тым не менш, нараджэнне яшчэ аднаго незалежнага выдання ліберальна-дэмакратычнага напрамку ў інфармацыйнай прасторы Беларусі — з'ява пазітыўная, якую можна толькі вітаць.

Ні пуху, ні пер'я, калегі!

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра аргкамітэта Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

# «На Чорных лядах» у чорныя дні...

***У канцы ліпеня, напярэдадні Дня незалежнасці Беларусі, у Доме літаратара адбылася прэзентацыя фільма «На Чорных лядах» па сцэнарыю Васіля Быкава, што ўвасобіў на экране рэжысёр-пастаноўшчык Валерый Панамароў.***

Забягаючы наперад, скажу: калі журналісты, пісьменнікі і кінакрытыкі прагледзелі гэтую працу да канца, і ў зале загарэлася святло, усе заапладзіравалі.

У аснову сцэнарыя фільма ляглі два быкаўскія апавяданні — «На Чорных лядах» і «Перад канцом», прысвечаныя жыццю Беларусі ў адзін з самых трагічных момантаў яе гісторыі, гады грамадзянскай вайны, у прыватнасці — Слуцкаму збройнаму чыну, скіраванаму супраць паглынання і раздзелу Беларусі бальшавіцкай Расіяй і белапанскай Польшчай у 1920 годзе.

Фільм атрымаўся вострасюжэтным. Я, напрыклад, як дзіця, чакаў: што ж будзе далей? Вырвуцца слуцкія паўстанцы з чырвонаармейскага атачэння ці не? Зловяць байца слуцакоў, падлетка Валодзьку, які пайшоў на разведку ў сваю вёску, чэкісты ці не? Застанецца ён жывым ці не, пасля калектыўнага самагубства паўстанцаў, якія вырашылі, што лепей зрабіць усё так, чым скарыцца.

...4 ліпеня г.г. пасля прагляду згаданай стужкі на мастацкай радзе студыі «Беларусьфільм» журналістка з «Народнай газеты» паспяшалася выдаць артыкул пад больш чым красамоўнай назвай «Василь Быков — классик. Но фильм по его рассказу обречен на неуспех». Я спецыяльна не пераклаў на беларускую мову назву артыкула, каб падкрэсліць, што журналістка, якая добра ведае мову карэннай нацыі, а сам фільм, што вельмі прыемна, агучаны на добрай беларускай мове і зроблены на беларускім гістарычным матэрыяле, у сваім артыкуле, відаць, падстроілася пад выніkі сумна вядомага на ўсю культурную Еўропу рэферэндуму, каб на расійскай мове данесці неацэнную ўласную думку як мага большаму колу чытачоў наконт менавіта быкаўскага «кінапрвалу». Яшчэ б! Крыху больш палавіны тых, хто мае права галасаваць, выступілі на рэферэндуме супраць беларускай мовы, меншая, але значная, частка — супраць бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня», а тут гэты неўтаймаваны класік наладзіў гэткую даніну памяці слуцкім паўстанцам, якія, хаця і загінулі, але далі сапраўдны бой войску бальшавіцкай імперыі — спадкаемцы «турмы народаў», як некалі выказаўся пра манархічную Расію Ульянаў-Ленін.

Вось асноўныя аргументы Алены Малочкі адносна неталенавітасці фільма:

*«...Вместо философских вопросов бытия главной темой, по-моему, в фильме стала политическая идея о независимости Беларуси. Что ж, прекрасно. Это право творческой личности. Но, увы, эту тему режиссёр не «поднял», он даже не смог «оторвать» её от земли. Со всех швов в фильме вдруг полезли «белые нитки».*

У чым жа канкрэтна бачыць крытык гэтыя «нитки»?

А вось у чым:

*«...Фильм получился двухмерным, без напряжения, без нерва. Как сказала критик Нина Фрольцова, режиссёр лег на амбразуру, из которой никто не стреляет. Было скучно. Я сидела и ждала, когда же кончится это коллективное самоубийство на экране. Впрочем, застрелилось бы еще человек десять, эффект был бы тот же: душа не принимала этого самурайства, а мозг вообще отказывался верить, что такое могло быть у нас на Беларуси — первый признак нехудожественности произведения. От рассказа Быкова не осталось и следа...»*

Карацей, тое, за што журналістка ў пачатку артыкула хваліла Быкава-пісьменніка (маўляў, слуцкія паўстанцы мелі права ў безвыхаднай сітуацыі загінуць ад уласнай кулі, а не ад бальшавіцкай), ставіла ў канцы артыкула Быкаву-сцэнарысту віну («душа не принимала этого самурайства»).

Але самы галоўны довад: «Было скучно»!

Вось і ўсё. Астатняе ж — гэта ўжо «производное» ад «скуки».

А вось мне ды іншым маім калегам, якія сядзелі ў зале Дома літаратара, сумна не было. Наадварот, нас вельмі цікавіла: ці здолелі аўтары фільма з дапамогай уласнага таленту і таленту акцёраў, карыстаючы літаратурны матэрыял двух быкаўскіх апавяданняў, данесці да людзей не проста безвыхаднасць канкрэтнай сітуацыі той групы паўстанцаў, якія праз лясы ды балоты імкнуліся вырвацца з чырвонаармейскіх кіпцюроў (на гэтым пошуку выйсця і збудаваныя сюжэты апавядання «На Чорных лядах» і аднаназоўнага фільма), а трагізм, драму Беларусі, якую расцягвалі, быццам звяр'ё здабычу, па сваіх норах нашыя суседзі-драпежнікі — белапанская Польшча ды «чырвоная» РСФСР? І прыйшлі да высновы: здолелі!

Менавіта тут была схаваная ісціна і твора Васіля Быкава, і ягонага фільма, страляючая і сягоння ў нас амбразура, дзе за кулямётам знаходзяцца духоўныя нашчадкі тых, хто цкаваў разбітыя пад Семежава аддзел рэгулярнага войска Беларускай Народнай Рэспублікі. Так што наконт пагаслай амбразуры няпраўда, калі толькі сапраўды гэтак было сказана, у чым я сумняваюся: ведаю спадарыню Ніну Фральцову як дасведчанага чалавека, не атручанага шавіністычнымі замашкамі на сапраўдную беларускую гісторыю з боку цяперашніх беларусаненавіснікаў ад дзяржаўных апаратаментаў ды розных партый тыпу «тутошние соколы Жириновского».

І вершы Янкі Купалы ў фільме былі да месца.

І ігра акцёраў была майстэрская, пераканаўчая (адзін толькі Кажухар-Гарбук чаго каштуе!).

І сцэна ў чэкісцкай вязніцы, «пазычаная» з апавядання «Перад канцом», была арганічна ўплеценая ў канву кінарасповяда і поўнасцю апраўданая як адзін з рэтраспектыўных момантаў, каторы лішні раз паказваў на зломе беларускае грамадства часоў грамадзянскай вайны (эсэр, блатняк, інтэлігент, вайсковец), лішні раз тлумачыў, чаму таму ж Слуцкаму збройнаму чыну была наканаваная пагібель: не знайшлося трэцяй сілы, а ёй павінна была стаць шырокая згуртаванасць беларусаў у барацьбе супраць паноў і бальшавікоў, каб выцягнуць Беларусь з азіяцкага варварства, палітызаванага «дыктатурай пралетарыята», ды з-пад крыла «бялага ожэла» ў сям'ю еўрапейскіх цывілізаваных народаў.

І сюжэт — напружаны, нервовы, «камерны» па сваёй кампазіцыі, падобны ў добрым сэнсе гэтага слова на сюжэт «Альпійскай балады».

І канцоўка твора Васіля Быкава не зусім «самурайская» — і ў апавяданні «На Чорных лядах», і ў фільме застаецца жыць са згоды камандзіра Валодзька — надзея тых, хто загінуў у імя незалежнасці Беларусі, на здзяйсненне ў будучым іхняй галоўнай справы жыцця.

Так што сваім «разносам», шаноўная Алена, Вы, акрамя ўсяго, проста дапамаглі тым, хто павінен дазволіць-не дазволіць выхад фільма ў пракат, «зарубіць» гэты таленавіты твор. Пачынаюць жа дзікуны знішчаць школьныя падручнікі з «не такой» гісторыяй. Пачынаюць жа выкідваць са школ і садкоў «не тую» мову. Штосьці падобнае ўжо было ў 33-м у адной краіне... Усё спадзяюцца, што наш народ да вызнання згубіць сваю нацыянальную памяць, як яе згубілі некаторыя журналісты, абслугоўваючы культуртрэгерскія інтарэсы мянялаў сімволікі.

Што ж, смяецца той, хто смяецца апошнім.

І хай сёння гэты фільм у хворым падкаланіяльным грамадстве не ўзбагаціць пакуль казну. Але прыйдзе час — і нашыя нашчадкі — беларусы і небеларусы, але ўсё роўна патрыёты па-сапраўднаму вольнай і незалежнай Айчыны ацэняць па годнасці-вартасці не толькі мастацкі фільм «Альпійская балада», «Ідзі і глядзі» ці «Прымаю агонь на сябе», але і «На Чорных лядах» і тыя фільмы, якія яшчэ пакажуць нам і часы Грунвальда, і Сініх Водаў, і Крычаўскага чыну Вашчылы, і Касцюшку з Каліноўскім.

Я ўяўляю, што для Алены Малочка такая катэгорыя, як нацыянальная свядомасць мастака, — пусты гук. Але гэтак, як я, разумеюць фільм «На Чорных лядах» і іншыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі — удзельнікі прагляду ў Доме літаратара. Мяркуйце самі.

**Іван Саверчанка, кандыдат гістарычных навук**:

— Як гісторык, хачу засведчыць, што паказаны ў фільме бальшавіцкі харчразвёрстачны ўціск на Беларусі, чэкісцкі тэрор супраць нявінных мірных сялян у 20-м годзе, калі вылюдкі стралялі заложнікаў з ліку родзічаў «ворагаў рэвалюцыі» — поўнасцю супадае з праўдай тагачаснага жыцця і ходам канкрэтных падзей. Праўдзіва паказана ў стужцы «На Чорных лядах» і паліфанія тагачаснага грамадства, рознасць яго інтарэсаў і ў сілу такой рознасці немагчымасць аб'яднання вакол ідэі будаўніцтва Беларускай Дзяржавы, якая была б незалежнай ад Усходу і Захаду. Зразумела, каб глядзець гэты фільм, глядач павінен быць падрыхтаваны і хаця з большага ведаць пра Слуцкі збройны чын. Але ж ты, Алесь, ведаеш сам, як цяпер у нашай краіне ставяцца да сцірання «белых плямаў» гісторыі, выхавання на нашай сапраўднай, а не сфальсіфікаванай, гісторыі пачуцця патрыятызму ды гонару за Бацькаўшчыну. Што да мастацкіх вартасцяў... Спадабалася ігра Віктара Манаева і Генадзя Гарбука — яны стварылі непаўторныя вобразы. Я асабіста, пакуль дагледзеў гэты фільм да канца, проста здранцвеў увесь ад нервовай напругі: сцэнарыст Васіль Быкаў прапанаваў гледачу даволі займальны сюжэт. Фільм патрэбны моладзі, патрэбны нам усім. Яго пусціць бы на тэлеэкраны, даўшы наперад слова стваральнікам кінастужкі...

**Валянцін Тарас, пісьменнік**:

— У фільме мяне найперш уразіла наская прырода — сасоннік, прарэджаны бярозамі, пясчаныя выспы, вясновая змакрэласць лесу, балаціны. Ужо адзін такі кампанент робіць працу Быкава і Панамарова глыбока беларускай па свайму духу. Гэты фільм, які ўжо ёсць, які адбыўся, — адчайная спроба ягоных творцаў прабіцца да глухіх штыкоў абыякавасці сучаснага грамадства, скіраваных у сэрца уласнай гісторыі, у душу нацыянальных каштоўнасцей. Тут і боль, і праўда жыцця. Мне, чалавеку, што ў падлеткавым узросце зведаў партызанскі лес, вельмі зразумелыя паводзіны такога ж 15-гадовага хлопца Валодзькі, за якога я так перажываў, гледзячы фільм. Асобным момантам кінастужкі я прапанаваў бы, магчыма, іншае сцэнарнае рашэнне; але гэта ні ў якім разе не змяншае прафесійнасць узроўню гэтай працы і яе значэння...

**Юрый Хвашчавацкі, кінадакументаліст**:

— Здзіўляюся настойлівасці калегі Валерыя Панамарова. Яшчэ тады, калі ён здымаў фільм «Дэбют», у яго стралялі, падасланыя, самі разумееце кім, кілеры. Зразумела, што кілеры, але ўжо не з пісталетамі, а з самапіскай у руках, распачынуць на яго і зараз паляванне. Не верце нікому з гэтых адэптаў наменклатурнай маральнасці, дружа. Згадзіцеся, што кінарэжысёр, які паставіў такія працы, як «Мудрамер», «Тутэйшыя», «Траянскі конь», «Суседзі», зразумела, выкліча рэакцыю ў беларусаненавіснікаў і пасля прагляду фільма «На Чорных лядах»... Але фільм, якому яны так перашкаджалі падчас здымак, ёсць. І гэта — перамога!..

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## Наш каляндар

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

Дубінцы, Слуцку і Капылі». Гэты высокаадукаваны беларускі магнат больш вядомы як галоўны адмоўны герой гістарычнага рамана Г.Сянкевіча «Патоп», рэальным прататыпам выдуманай меладраматычнай любоўнай інтрыгі. Што да прыгодаў, то Багуслаў сапраўды быў на іх аматар. Згадаем, прыкладам, два эпізоды з ягонага жыцця. Багуслаў ваяваў добраахвотнікам у войску Генрыха Аранскага і вызначыўся адвагай у бітве з іспанскім войскам за крэпасць Ганд. Ён быў і зацятым дуэлянтам і праз гэта нават трапіў у Бастылію.

Негатыўны гістарычны воблік Багуслава быў вызначаны польскай гістарыяграфіяй за ягоны палітычны і рэлігійны сепаратызм. Ён, як і ягоны бацька, быў кальвіністам, а да таго ж падчас польска-шведскай вайны 1655—1660 гадоў Багуслаў разам з сваім стрыечным братам Янушам Радзівілам, вялікім гетманам Вялікага Княства, які стаў на чале вялікакняскіх магнатаў шведскай арыентацыі, падпісаў Кейданскую дамову 1655 года пра пераход Вялікага Княства Літоўскага ад уніі з Польшчай да уніі з Швецыяй. Паводле іншых звестак яны намагаліся стварыць асобнае княства пад пратэктаратам Швецыі.

Асноўнай рэзідэнцыяй Багуслава Радзівіла да 1655 года быў Слуцак, які стаў апошняю апораю рэфармацыі ў Вялікім Княстве. Як падае Тамара Габрусь, Слуцак тае пары быў не толькі апораю ў пераносным сэнсе: з Багуслававай ініцыятывы былі перабудаваныя гарадскія ўмацаванні Слуцка. Багуслаў Радзівіл цікавіўся не толькі фартыфікацыяй, але наогул быў неблагім архітэктарам. Даследчыцы ўдалося знайсці збор Багуслававых малюнкаў і чарцяжоў. І што асабліва цікава — ён зрабіў чарцяжы асобных будынкаў, пераважна драўляных. Т.Габрусь лічыць, што такія праектныя чарцяжы ў драўляным беларускім дойлідстве сярэдзіны XVII стагоддзя — унікальная з'ява.

Пра высокі інтэлектуальны ўзровень ды талерантнасць гэтага чалавека сведчыць і распрацаваны ім праект надбрамнай царквы ў Слуцку, а таксама праект іканастаса для яе. Дарэчы, у гэтым праекце быў выкарыстаны салярны знак, распаўсюджаны ў беларускім драўляным дойлідстве.



Герб Слуцка.

Тамара Габрусь выказала меркаванне, што і герб места Слуцка ў выглядзе крылатага каня распрацаваў сам Багуслаў Радзівіл. Вядома Багуславава захапленне паэзіяй. Ён складаў евангелісцкія гімны, што апублікаваныя ў Гданьскім канцыляле 1723 года. Вядомы і збор ягоных лістоў. Багуслаў любіў і збіраў творы галандскіх, нямецкіх і мясцовых мастакоў. Гэтыя скарбы былі звезены ў апошнюю рэзідэнцыю Багуслававу ў Караляўц, куды ён быў сасланы каралём Янам Казімірам.

**Падрыхтаваў З.С.**

*Прафесар Герман БІДЭР.*
*Зальцбург.*

# Моўная сітуацыя ў Беларусі

*(Заканчэнне.)*

### 3. Прычыны ўзнікнення культурнага адраджэння Беларусі

За гады савецкай улады ў Беларусі беларуская нацыя, яе мова і культура трапілі ў катастрафічнае становішча. Да пачатку 80-х гадоў беларуская мова была амаль цалкам выцеснена з грамадскага і культурнага жыцця краіны. Нацыянальную сістэму адукацыі і выхавання замянілі адзінай для ўсіх народаў савецкай сістэмай. Беларуская нацыянальная свядомасць растварылася ў дыфузным савецкім патрыятызме. Этнічнае зліццё беларусаў з рускім народам, здавалася, магло стаць рэальнасцю. Гістарычная традыцыя Беларусі была фальсіфікавана ідэалагічна і палітычна і напластавана чужымі гістарычнымі канцэпцыямі. Гістарычныя і культурныя помнікі Беларусі былі ў большасці разбураны або вывезены з краіны. Усялякая навуковая і культурная дзейнасць абмяжоўвалася ідэалагічнымі догмамі, і існаванне рэлігійных канфесій было магчыма толькі па-за грамадствам або ў падполлі.

Распад Савецкага Саюза і ўзнікненне суверэнных рэспублік далі магчымасць беларусам (а таксама ўсім іншым народам былога Саюза) падняць пытанне аб новым адраджэнні сваёй нацыі, культуры і сваёй мовы. Ужываючы тэрмін «адраджэнне», беларуская інтэлігенцыя працягвае традыцыі, назву і мэты таго руху першых трох дзесяцігоддзяў нашага стагоддзя, які наогул заклаў асновы сучаснай беларускай літаратурнай мовы, сучаснай беларускай літаратуры і культуры. Гэтае ранняе шматабяцаючае развіццё культуры Беларусі аднак раптоўна перарвалася ў выніку сталінскіх рэпрэсій у 30-я гады, і на працягу ўсяго наступнага паўвекавога перыяду нацыянальная культура беларускага народа ўжо не магла свабодна развівацца ва ўмовах руска-савецкага прыгнёту. Культурны росквіт і беларусізацыя 20-х гадоў змяніліся перыядам жорсткіх рэпрэсій.

Найбольш значныя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі (пісьменнікі, філолагі, гісторыкі) былі знішчаны фізічна, а тых, што засталіся жыць, настолькі запалохалі, што яны дзесяцігоддзямі баяліся абвінавачванняў у беларускім нацыяналізме, у так званай нацдэмаўшчыне, — гэтай як бы лаянкавай назвай бальшавікі заклеймавалі нацыянальную дэмакратыю.

*Здавалася б, што тэрмін* «нацыянальнае адраджэнне», які славісты звычайна ўжываюць у адносінах да эпохі абнаўлення або стварэння славянскіх літаратурных моў, якая пачалася ў канцы XVIII і працягвалася да пачатку XX стагоддзя, з'яўляецца анахранізмам у адносінах да канца XX стагоддзя, паколькі ва ўсіх славянскіх краінах, за выключэннем Беларусі і Украіны, літаратурныя мовы і нацыянальныя культуры даўным даўно кансалідаваліся і іх існаванне не падлягае сумненню.

Нягледзячы на страшны лёс, які спасціг беларускую інтэлігенцыю ў савецкі час, з сярэдзіны 80-х гадоў сярод гарадской моладзі пачаў стыхійна развівацца рух у абарону роднай беларускай мовы і роднай культуры, які хутка распаўсюдзіўся сярод гуманітарнай і мастацкай інтэлігенцыі, ахопліваючы ўсё больш шырокія колы насельніцтва. У маі 1981 г. 28 прадстаўнікоў інтэлігенцыі Беларусі, сярод якіх былі вядучыя пісьменнікі на чале з Васілём Быкавым, напісалі адкрыты ліст тагачаснаму першаму сакратару КПСС Міхаілу Гарбачову, у якім прапанавалі цэлую праграму адраджэння нацыянальнай культуры беларускага народа. Аднак Гарбачоў ігнараваў абгрунтаваныя патрабаванні беларускай інтэлігенцыі, дакладна таксама як кампартыя Беларусі да канца супрацьстаяла нацыянальна-культурнаму адраджэнню краіны (дарэчы, у адрозненне ад кампартый іншых былых савецкіх рэспублік, якія далучыліся да нацыянальных рухаў дзеля выратавання свайго існавання).

Увосень 1987 г. пачалася публічная дыскусія па нацыянальных і моўных праблемах у газеце «Літаратура і мастацтва». У Мінску і іншых буйных гарадах з мэтай абароны роднай мовы і нацыянальнай культуры адбыліся сходы і дэманстрацыі, на якіх выказваўся пратэст супраць працягвання русіфікацыі Беларусі. Гуманітарная інтэлігенцыя пачала аб'ядноўвацца ў культурныя і моўныя суполкі. Узніклі апазіцыйныя партыі, якія ўключылі ў свае праграмы культурна-палітычныя патрабаванні. Беларускі Народны Фронт — палітычнае аб'яднанне ўсіх дэмакратычных сіл краіны — патрабаваў неадкладнай і бескампраміснай беларусіфікацыі шляхам заканадаўчых мерапрыемстваў.

Прыхільнікі нацыянальнага адраджэння змагаюцца за адраджэнне і развіццё беларускай мовы і беларускай культуры, за кансалідацыю беларускай нацыі і яе выхаванне ў духу патрыятызму, за адраджэнне гістарычнай традыцыі і нацыянальнай самасвядомасці, за свабоду навуковай і мастацкай дзейнасці, за стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі і асветы, пазбаўленай радыкальнай ідэалогіі і мілітарызму, за забеспячэнне права на школьную адукацыю на роднай мове ўсім нацыянальным групам краіны, за свабоду рэлігіі, за культурную і духоўную талерантнасць, за выкарыстанне беларускай мовы ў цэрквах і касцёлах, за родную фальклорную традыцыю, за вяртанне ўсіх гістарычных тапонімаў у краіне і г.д.

### 4. Моўнае будаўніцтва і моўная палітыка ў Беларусі на працягу XX стагоддзя

Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. адмяніла нацыянальныя і моўныя прывілеіі, якімі карысталіся рускія ў царскай імперыі, і стварыла такім чынам юрыдычнае раўнапраўе ўсіх народаў шматнацыянальнай савецкай дзяржавы. У новастворанай ва ўсходняй частцы Беларусі БССР гэта таксама азначала адмену рускай мовы як адзінай дзяржаўнай і прызнанне за беларускай мовай статуса адной з дзяржаўных моў (побач з рускай, яўрэйскай і польскай). Канчатковае афармленне беларускай літаратурнай мовы адбылося шляхам яе ўнармавання і кадыфікацыі ў 20-я гады. Тады з'явіўся шэраг падручнікаў, граматык і слоўнікаў новай беларускай літаратурнай мовы. Іх выдатнымі аўтарамі сталі Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі і Сцяпан Некрашэвіч. Шырока спланаванае моўнае будаўніцтва садзейнічала ўвядзенню беларускай мовы ва ўстановы, ведамствы, школы, навуковыя і культурныя ўстановы БССР. Дарэчы, і ў тагачаснай (польскай) Заходняй Беларусі выступалі выдатныя беларускія моваведы, напрыклад, граматыст Браніслаў Тарашкевіч і арфограф Янка Станкевіч. Аднак жа ў канцы 20-х гадоў пачаліся арышты вядомых моваведаў БССР, у лік якіх трапілі ўсе вышэйназваныя лінгвісты, а таксама вядомы дыялектолаг Петр Бузук. Большую частку з іх расстралялі, а астатніх выслалі ў лагеры. У выніку сталінскіх рэпрэсій руская мова не толькі ў БССР, а і ва ўсім Савецкім Саюзе была ўведзена ў якасці міжнацыянальнай кайне і па-сутнасці атрымала статус усесаюзнай дзяржаўнай мовы. Беларуская ж мова, наадварот, зводзілася да становішча ўнутрыэтнічнага сродку сувязі ў межах беларускай моўнай супольнасці. Пачала ўзмоцнена прапагандавацца канцэпцыя «ўзаемнага абагачэння» і «зліцця» савецкіх культур і моў, што ў рэшце рэшт ва ўмовах сацыял-культурнага прыгнёту прывяло да далёка зайшоўшай русіфікацыі рэгіянальных нацыянальных моў. Варта адзначыць, што ў Заходняй Беларусі беларуская культура таксама не мела спрыяльных магчымасцей для свайго развіцця, паколькі польскія ўлады праводзілі палітыку гвалтоўнай паланізацыі ўскраінных («крэсавых») народаў: грамадскія, культурныя і навуковыя дзеячы Заходняй Беларусі праследаваліся, амаль усе першапачаткова адкрытыя беларускія школы паступова былі зліквідаваны.

Пасля вайны ў аб'яднанай Беларусі яшчэ больш узмацнілася прапаганда рускай мовы «как мирового языка социализма». Праслаўленне «великого русского языка» і падкрэсліванне «ведущей роли русского братского народа» былі асноўнымі пунктамі моўнай і этнічнай палітыкі ў Беларусі да апошняга часу.

Дзякуючы клопатам БНФ у студзені 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў закон «Аб мовах у БССР», які аб'явіў беларускую мову дзяржаўнай мовай у межах Беларускай Рэспублікі і які прадугледзеў яе паступовае паўторнае ўвядзенне ў грамадскае жыццё на працягу 10 гадоў. Рускай мове было нададзена права служыць у якасці мовы міжнацыянальных зносін у межах Саюза. У верасні 1990 г. Савет Міністраў Беларусі прыняў праграму развіцця беларускай мовы і іншых моў нацыянальных меншасцей Беларусі з мэтай канкрэтнага ажыццяўлення моўнага закона.

Аднак на пачатку 1990 г. Вярхоўным Саветам СССР быў выдадзены саюзны закон аб мовах народаў СССР, які аб'явіў рускую мову афіцыйнай мовай усяго Саюза, не ўлічваючы супраціўленне з боку саюзных рэспублік... Паколькі рэспубліканскія моўныя законы і саюзны моўны закон супярэчылі адзін аднаму, то на працягу 1991 г. пытанне доўга абмяркоўвалася. Вырашаць гэту моўную спрэчку адпала патрэба ў сувязі з распадам Саюза, а ў пагадненні аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў пытанне аб статусе моў увогуле не было закранута. Значыць, самыя новыя прававыя змены ў галіне моўнай палітыкі Беларусі істотныя, аднак па розных прычынах рэалізацыя абазначаных мерапрыемстваў робіцца ўсё больш цяжкай, замаруджваецца і наогул выклікае сумненне. З часу, калі пачалося новае ажыўленне камуністычнага руху ў Беларусі, у друку пачалі гучаць патрабаванні ўвядзення рускай мовы ў якасці другой дзяржаўнай мовы Беларусі.

### 5. Беларуская мова адраджэння

Адраджэнцкі рух лічыць, што сучасная беларуская літаратурная мова ў яе пісьмовай і вуснай разнастайнасці, асабліва ў такіх сферах ужывання, як друк, радыё і тэлебачанне, моцна русіфікавана і непрыдатна для далейшага ўжывання, а таму патрабуе правядзення ўсеагульнай рэформы існуючай моўнай нормы ў галіне арфаграфіі, граматыкі, лексікі і лексікаграфіі, тэрміналогіі і анамастыкі. Прыхільнікі адраджэння імкнуцца ачысціць і адрадзіць беларускую літаратурную мову шляхам узмоцненай інтэграцыі дыялектнай лексікі, выкарыстання ўзорных твораў белетрыстыкі (перш за ўсё тэкстаў такіх аўтараў, як Я.Купала, Я.Колас, М.Гарэцкі, У.Караткевіч і інш.), вяртанне да моўнатворчага доследу 20-х гадоў і арыентыроўкі на мову беларускай эміграцыі ў Заходняй Еўропе і Амерыцы. Што датычыць рэформы арфаграфіі, то адраджэнцы патрабуюць пераходу да правапісу 20-х гадоў, да так званай «тарашкевіцы», а апаненты хочуць толькі частковага ўдасканалення нормаў, якія ўведзены навязанай у 1933 г. арфаграфічнай рэформай, г.зн. захавання так званай «наркомаўкі» (вобразнае абазначэнне распрацаваных пад эгідай камісарыяту асветы БССР правіл арфаграфіі і граматыкі, набліжаных да рускіх).

Слоўнікавы запас беларускай стандартнай мовы павінен быць вызвалены ад больш позніх русізмаў і дапоўнены лексічнымі адзінкамі з народных гаворак і помнікаў старажытнабеларускай пісьменнасці. Прадугледжваецца таксама рэвізія нарматыўных тлумачальных слоўнікаў у плане абнаўлення слоўнікавага складу, тлумачэння сэмантыкі лексем і характарыстыкі словаўтваральных мадэлей. Плануецца развіццё беларускай прафесіянальнай тэрміналогіі і стварэнне ва ўсіх навуковых галінах, уключаючы прыродазнаўчыя і тэхнічныя навукі, дастаткова распрацаваныя беларускія навуковыя наменклатуры. У галіне анамастыкі адраджэнцы патрабуюць вяртання да традыцыйных беларускіх і балтыйскіх назваў і форм, а таксама да ўстаранення замежных (у першую чаргу польскіх і рускіх) назваў і масавых перайменаванняў савецкага перыяду. Аднак да гэтага часу гэта патрабаванне амаль не рэалізавана. Асабліва вялікую работу па абароне і распаўсюджванню беларускай мовы праводзіць заснаванае ў чэрвені 1989 г. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, якое выдае штотыднёвік «Наша слова». Работа па моўнаму планаванню выконваецца Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны, а таксама Акадэміяй навук Беларусі і мовазнаўчымі кафедрамі беларускіх універсітэтаў і інстытутаў.

У маі 1991 г. была заснавана Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, у якую ўвайшло каля 600 спецыялістаў па беларускаму мовазнаўству, літаратуразнаўству, гісторыі, этнаграфіі і гісторыі мастацтва, а таксама перакладчыкі мастацкіх тэкстаў. У гэты ж час у Менску адбыўся Першы міжнародны кангрэс беларусістаў, у якім прынялі ўдзел некалькі соцень вучоных, пісьменнікаў і перакладчыкаў са шматлікіх краін.

### 6. Выснова

Як можна меркаваць са сказанага, рух за беларускае культурнае адраджэнне робіць усё магчымае дзеля таго, каб аднавіць нацыянальныя формы ва ўсіх істотных сферах культуры. Дасягненне гэтай высокай мэты аказалася палітычна магчымым у сувязі з распадам Савецкага Саюза і ўтварэннем адноснай дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Аднак існуе небяспека, што эканамічны і дзяржаўны крызіс краін СНД, які абвастраецца, будзе ўскладняць, запавольваць і ўвогуле зробіць немагчымым рэалізацыю шматлікіх задум у галіне нацыянальнай, моўнай, культурнай і царкоўнай палітыкі. Усё будзе залежаць ад таго, з якой паслядоўнасцю і энергіяй беларуская гуманітарная і мастацкая інтэлігенцыя як нацыянальна і культурна свядомая праслойка будзе рэалізоўваць свае планы і пераадольваць сучасны крызіс. У гэтай вельмі цяжкай сітуацыі беларускай інтэлігенцыі вельмі патрэбна духоўная і маральная падтрымка з боку інтэлігенцыі іншых славянскіх і неславянскіх краін, паколькі толькі паспяховае правядзенне намечанай праграмы моўнага ды культурнага адраджэння забяспечыць будучыню беларускай мовы і такім чынам і далейшае існаванне беларускага народа ў якасці самастойнага этнасу.

**Тэкст пераклала і падрыхтавала да друку Ірына КРЭНЬ.**



# «Беларус»

Нарэшце айчынныя падпісчыкі атрымалі травеньскі і падвойны — за чэрвень і ліпень — нумары газеты «Беларус», выдаванай у ЗША Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем, частка накладу якой перадрукоўваецца і распаўсюджваецца ў Беларусі.

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова» — гэтая цытата з дзяржаўнай Канстытуцыі паранейшаму надрукаваная побач з назвай газеты. Што гэта — сведчанне неазнаёмленасці рэдакцыі з новым статусам расійскай мовы, нададзеным ёй травеньскім рэферэндумам, ці нежаданне бачыць рэаліі жыцця Бацькаўшчыны?

Адказаць на гэтае пытанне магчыма, прачытаўшы абодва нумары. Аб чым гаворыцца ў змешчаных там публікацыях? Аб змесце і сэнсе, якія афіцыйная прапаганда Беларусі надала святу Перамогі над Германіяй у Другой сусветнай вайне. Аб выніках першага тура выбараў у Вярхоўны Савет краіны. Аб змене сцяга над будынкам прэзідэнцкай адміністрацыі і звязаным з гэтым скандалам. Аб Другім міжнародным кангрэсе беларусістаў. Гэтыя ды іншыя артыкулы знаёмяць беларускіх чытачоў з падзеямі, што ў іх на радзіме былі навінамі два—тры месяцы таму.

Але большая частка надрукаваных у разгляданых нумарах «Беларуса» інфармацый асвятляе жыццё не нашага краю, а беларускай дыяспары на Захадзе — перадусім у ЗША і Канадзе. Чытаючы іх, беларусы на радзіме могуць даведацца пра тое, як іхнія колішнія землякі ў сваім вузкім коле адзначаюць угодкі абвяшчэння БНР, царкоўныя святы, ладзяць пікнікі, спраўляюць вяселлі і памінкі — адным словам, жывуць тым самым жыццём, што і адраджэнцы на Бацькаўшчыне, у вольны ад працы час ствараючы свае асяродкі ў чужым ім грамадстве. Чытаючы «Беларус», пераконваешся: адзінае, чаго нашыя суайчыннікі, у адрозненні ад эмігрантаў, пазбаўленыя — гэта магчымасці мець уласную газету, каб у ёй востра крытыкаваць першую асобу чужой дзяржавы, змяшчаючы ў гэтай газеце адкрытыя лісты да яе, як зрабіў гэта Генеральны сакратар Беларускага Згуртавання Аўстраліі і грамадзянін Аўстраліі сп.А.Алехнік. Ва ўсім астатнім мы, грамадзяне Беларусі, назіраючы, а не вызначаючы, ход падзеяў у сваёй краіне і жывучы бясконцымі рэмінісцэнцыямі, стаім на-роўні з эмігрантамі.

«Сьв. памяці...» Амаль у кожным нумары «Беларуса» на апошняй старонцы ўбачыш тэксты, што пачынаюцца гэтымі словамі. Беларускія эмігранты паміраюць, так і не ўбачыўшы сваю краіну свабоднай. Магчыма, менавіта гэтыя публікацыі газеты БАЗА найбольш патрэбныя маім суайчыннікам — як напамін аб лёсе, які іх можа напаткаць і які яны пакуль у стане змяніць. Пакуль што.

**У.ПАНАДА.**

# Кола сям'і

## У нашай хаце свята

Для правядзення гульняў з дзецьмі падрыхтуйце наступныя прадметы: па колькасці дзяцей, што будуць на свяце, уключаючы «віноўніка ўрачыстасці» — узоры садавіны і гароднiны з пералічаных: бурак, качанчык капусты, морквіну, бульбіну, цыбуліну, яблык, грушу, магчыма замяніць іх малюнкамі ці муляжамі; манету пяцікапеечную ці інш., вяроўку, два аркушы паперы звычайнага пісьмовага фармату, некалькі пластмасавых кубікаў ці кегляў, міску з вадою, нітку. Любы малюнак — напрыклад, вокладку ад часопіса — разрэжце на адвольныя кавалкі. Перад прыходам гасцей схавайце падрыхтаваныя бурачок, бульбіну, яблык і г.д. у розных месцах пакоя. Калі дзяцей чакаецца больш сямі, схавайце два яблыкі, дзве грушы і г.д. Каб дзецям лягчэй было адшукаць, загарніце іх у паперу ці расфасуйце ў мяшэчкі. Пастаўце на віднае месца прыгожы пусты кошык ці вазу для садавіны. А яшчэ ў імітаваную «сявеньку» — салатніцу, рэшата, плеценую сухарніцу і да т.п. насыпце любога зерня (пажадана пшанічнага), ці проста нейкіх круп — грыцы, рысу і г.д. У насыпанае зерне ўторкніце васковую свечку.

**Вядучая.** Дзень добры, дзеці! Сёння мы святкуем дзень нараджэння Ягоркі. У якую пару года мы з вамі сабраліся?

**Дзеці. Восенню!**

**Вядучая.** А восень — пара вельмі цікавая і для нашых продкаў чаканая. Восенню збіралі ўраджай, восенню, пасля канца жніва, ладзілі вяселлі. Восенню святкавалі старадаўняе земляробчае свята — багач. Такая прымаўка пра яго існуе: «Прыйшоў багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку». Гэта значыць, што ў гэты час пачыналі сяўбу азімых — сеялі зерне для ўраджаю наступнага года. Таму сімвалам багача была сявенька, з якой сейбіт хадзіў па полі, насыпанае ў яе зерне — сімвал сабранага ўраджаю, і ўстаўленая ў зерне васковая свечка — сімвал сонца, дабрабыту, а таксама блаславення Маці Божай, да дня нараджэння якой і было прымеркавана свята багач. Вось ён стаіць, наш багач! Але свечка на ім яшчэ не запаленая. Каб яе запаліць, мы павінны сабраць вось у гэты кошык скарбы Восені. Яны схаваныя ў гэтым пакоі. Кожны з вас павінен знайсці адзін вось такі мяшэчак. *Вядучая паказвае ўзор мяшэчка, у якія схаваныя патрэбныя прадметы. Калі дзяцей мала — двое—трое, — можна прапанаваць ім адшукаць па два прадметы.*

*Дзеці адшукваюць схаваныя прадметы, разглядаюць іх.*

**Вядучая.** А цяпер, перш чым дарунак Восені трапіць у кошык, кожны з іх трэба нам адваяваць у зямліцы, з кожным трэба пасябраваць. Я прачытаю загадку. І вы скажаце мне, хто трымае ў руцэ адгадку на яе.

*Латка на латку, а іголка не была. (Капуста.)*

Агатка правільна адгадала. Гэта капуста, якую яна знайшла. Бачыце, сапраўды, увесь качан нібы складзены з латак. Каб пасябраваць з капустай, трэба ўмець добра ставіць латкі. Вось тут у мяне ў каробцы цэлая куча латак. Трэба скласці з іх адзін малюнак. А цяпер памагайце Агатцы!

*Вядучая высыпае кавалкі малюнка на падлогу, дзеці складваюць з іх цэлы малюнак.*

**Вядучая.** Цяпер наша капуста можа адправіцца ў кошык Восені. Пакладзі яе, Агатка!

*Дзяўчынка кладзе ў кошык качанчык. Вядучая чытае чарговую загадку.*

*Жоўтае цельца расце ў зямельцы,
Зялёныя косы глядзяць у нябёсы.
(Морква.)*

Пятрусь правільна паказвае мне сваю моркву. Цяпер, каб яна згадзілася адправіцца ў наш кошык, трэба адваяваць яе ў зямліцы. Як моркву выцягваюць з зямлі? За доўгую касу! Вось мы зараз і паспрабуем гэта зрабіць. Гэтая вяроўка будзе ў нас касою морквы, а замест морквы — Пятрусь і Ягорчын тата.

**Восеньскія скарбы**

***(Як правесці дзень нараджэння дзіцяці, якое нарадзілася ўвосень)***

*Дзеці бяруцца за вяроўку і спрабуюць перацягнуць з-за вызначанай рысы — напрыклад, з другога пакоя асоб, якія будуць увасабляць моркву. Пасля таго, як мэта гульні дасягнутая, вядучая аб'яўляе, што морква таксама адпраўляецца ў кошык, прычым класці яе павінен зноў жа той, хто яе знайшоў. Чытаецца наступная загадка.*

**Вядучая.**
*Вясна яе хавае,
Лета ажыўляе.
Восень — дастае,
А зіма — прадае. (Бульба.)*

Што гэта? Ганулька правільна паказвае сваю бульбіну. Вы ж ведаеце, што бульба расце ў зямлі, і бульбяное поле перайсці цяжка — бо яно ў барознах. І мы павінны, каб выбраць з зямлі бульбу, навучыцца пераступаць з баразны на баразну. Кожны з вас будзе браць гэтыя два аркушыкі, адзін кладзяце перад сабой, наступаеце на яго дзвюма нагамі, тады кладзяце перад сабой другі, пераступаеце на яго, забіраеце ззаду першы аркушык, зноў кладзяце перад сабой, пераступаеце на яго, забіраеце другі аркушык, зноў кладзяце перад сабой... Задача — прайсці так да канца пакоя, ні разу не ступіўшы на падлогу — толькі на паперкі. Ганулька паспрабуе першая!

*(Лепш адразу самому паказаць дзецям, як трэба пераходзіць пакой з дапамогай двух аркушыкаў.)*

**Вядучая.** Малайцы! Мы ўсе перайшлі бульбяное поле! Цяпер Ганулька можа пакласці бульбу ў восеньскі кошык. Наступная загадка:

*Паненка з паненак —
Сорак сукенак.
Хто распране —
Слёзы лье. (Цыбуля.)*

Алесь правільна паказвае сваю цыбулю. Сапраўды, калі цыбулю рэжаш, аж вочы ад слёз слепіць! Таму паспрабуем трохі пахадзіць з зачыненымі вачыма. Я расстаўляю кубікі пасярод пакоя па адной лініі. Кожны з вас павінен прайсці з завязанымі вачыма між гэтых кубікаў і ні аднаго не зрушыць. Першым ідзе Алесь і нясе ў кошык сваю цыбулю.

*Дзеці выконваюць практыкаванне. Цыбуля кладзецца ў кошык.*

**Вядучая.** Наступная загадка:

*Белы пан —
Чырвоны каптан.
Высока вісіць —
Нельга ўкусіць... (Яблык.)*

Максім правільна адгадаў — гэта яблык! І мы ўсё-ткі паспрабуем яго ўкусіць!

Яблык падвешваецца на нітцы. Нітку трымае адзін з дарослых.

*Дзеці па чарзе спрабуюць адкусіць ад падвешанага яблыка. Нарэшце некаму гэта ўдаецца.*

**Вядучая.** Вось наш яблык кладзём у кошык. А тым часам новая загадка:

*Жоўты бок — унутры мядок. (Груша.)*

Што гэта? Правільна, Веранічка, гэта груша. Высока яна расце, далёка падае, можа і ў калодзеж упасці, і ў лужыну... Вось гэтая міска з вадою — наш калодзеж. І груша туды ўпала.

*Вядучая кладзе грушу ў міску з вадою. Міска стаіць на табурэтцы сярод пакоя, дзеці па чарзе спрабуюць злавіць яе ротам.*

**Вядучая.** І нікуды ад нас груша не падзелася! Мы яе злавілі, і Веранічка можа пакласці яе ў кошык. А я чытаю наступную загадку:

*Сам пан у чырвоным, слугі ў зялёным. (Бурак.)*

Правільна, Ілюк, гэта бурак. Вось ён які важны пан — тоўсты, круглы, у аксамітным каптане. Каб такога пана ўгаварыць зайсці ў кошык, трэба яму добра грошай даць. Паспрабуем прынесці Пану Бураку грошай! На гэты канец пакоя я кладу капялюш. Вы па чарзе становіцеся на тым канцы, бераце вось гэтую манету, прылепліваеце сабе на лоб і несяце да капелюша, а тады скідваеце проста ў капялюш...

*Вядучая паказвае дзецям, як выконваць заданне. Дзеці па чарзе робяць яго.*

**Вядучая.** Цяпер пан Бурак адпраўляецца ў наш кошык. І мы сабралі ўсе скарбы Восені. І цяпер яна дазволіць нам запаліць свечку багача і адсвяткаваць наша свята.

*Запальваецца свечка.*

А Восень даслала Ягорку на дзень яго нараджэння свае падарункі.

*Дайце дзіцяці, чый дзень нараджэння святкуецца, кошык ці вазу з прыгожай садавінай. Прапануйце пачаставаць гасцей, якія так добра збіралі восеньскія скарбы, і запрасіце ўсіх за святочны стол.*

## Здароўе

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

# Неўрозы

*(Працяг.)*

### Істэрыя

На істэрыю, як хваробу, пакутуюць пераважна жанчыны. У мужчын жа назіраецца так званы «істэрычны характар» без іншых выразных прыкметаў такога захворвання. Што ж гэта за «характар»? На першы погляд, нібы, усё як і павінна быць у чалавека. Такія асобы ўражлівыя. Але каго з нас не ўразілі: нейкая кніга, кінафільм, майстэрства артыста, спевака, футбаліста, ды так, што памятаем і захапляемся не адзін год, калі не ўсё жыццё? Тое ж, відаць, можна сказаць пра іншыя рысы такога характару, прыкладам, сябелюбства, жаданне звабіць увагу іншых людзей, рэўнасць. Але адрозненне простае: істэрык робіць усё нарочна, спецыяльна, каб мець карысць з сваіх паводзінаў ці хваравітага стану. Ягоныя манеры, а дакладней, манернасць, схільнасць гаварыць няпраўду, лёгкасць перамены настрою, імкненне паказаць сябе пакрыўджаным — усё гэта на паказ. Нават з сваёй хваробы істэрыкі імкнуцца мець нейкую карысць.

Ды ўсё ж гэта — хвароба. Манера паводзін — схільнасць да тэатральнасці — можа набываць форму разладжанага руху аж да такога стану, калі істэрык не можа ні стаяць, ні хадзіць. Але ў некаторых выпадках такі чалавек лежачы можа рухаць рукамі і нагамі, хаця можа ўзнікнуць так званы істэрычны параліч. Такі параліч можа ўзнікнуць у нейкай адной руцэ ці назе, мышцах адной палавіны тулава. Вызначыць, ці гэта істэрычны параліч, ці ён — вынік іншай хваробы, можа толькі неўрапатолаг. Хаця ёсць адзін просты спосаб. Калі такога хворага папрасіць пастаяць з закрытымі вачыма і выцягнутымі ўперад рукамі, то ён не ўпадзе, як то здарыцца, калі ў чалавека ёсць нейкія арганічныя захворванні нервовай сістэмы.

Пры істэрычным неўрозе могуць узнікаць станы, калі ў хворага пачынае моцна біцца сэрца, ён нібы задыхаецца, калі ягоныя мышцы хапае сутарга або нават чалавек траціць прытомнасць.

### Дапамога

Адрозніць такі стан ад сапраўднай хваробы даволі складана. Але калі вы ведаеце сітуацыю, якая папярэднічала выпадку істэрыі, то можна абмежавацца звычайнымі мерамі — супакоіць хворага. Тыя ж парады і працэдуры, якія могуць аблегчыць стан неўрастэніка, істэрыку не дапамогуць. Яму можна параіць лячэнне ў псіхатэрапеўта. Але істэрыі, як і кожнай хваробе, можна запабегчы. Дзеля гэтага бацькі павінны правільна выхоўваць сваіх дзяцей змалку: заахвочваць іх да працы, пашаны і дапамогі старэйшым ды сваім малодшым братам і сёстрам. Ні ў якім выпадку нельга патураць іх капрызам і лішнім, непатрэбным, патрабаванням, не зважаючы на немаўлячы ўзрост.

### Псіхастэнія

Тыя людзі, хто мучыцца псіхастэніяй, вылучаюцца сваёй няўпэўненасцю, няверʼем у свае сілы, а таму ўвесь час сумняваюцца ў мэтазгоднасці сваіх учынкаў. Такія несупынныя развагі ды самааналіз даводзяць чалавека да станаўлення пэўнага характару, а дакладней, стану, якому ўласцівая пастаянная трывога. Псіхастэнікі цураюцца паўнакроўнага эмацыянальнага жыцця. Іх любоў да родных і блізкіх недастаткова трывалая, яны не ведаюць рэўнасці, а ўсё тое, што звычайна чалавека ўзрушвае, псіхастэнікамі ўспрымаецца без эмоцыяў. Іх не вабяць цікавыя справы і захапленні, а таксама і сяброўскія ці грамадскія кантакты з іншымі людзьмі.

Вядома, шмат што залежыць ад складу характару чалавека. Але ўсё ж псіхастэнікі пераважна вырастаюць з падлеткаў, якім не дапамаглі своечасова адолець стан «высявання», калі хлопец ці дзяўчына не могуць вырашыць складаныя праблемы гэтага перыяду жыцця.

Хворыя на псіхастэнію цяжка паддаюцца лячэнню лекамі, а таксама псіхатэрапеўтычнаму ўздзеянню. Больш карысці можа прынесці сардэчная і спрыяльная атмасфера сям'і, у якой жыве хворы.

# Мудрыя гавораць

**Жан дэ Лабруер** (1645—1696), французскі мараліст, пісаў сваю знакамітую кнігу «Характары, або Норавы цяперашняга стагоддзя» на сыходзе «вялікага веку» класічнай літаратуры, увабраўшы яе традыцыі і заваёвы, разнастайны досвед духоўнай культуры. Кніга Лабруера задуманая як шырокая карціна нораваў сучаснай яму эпохі. Аднак, як усякі разумны, таленавіты твор, заключае ў сабе ісціны вечныя. Лабруер першы з маралістаў XVII стагоддзя займаецца праблемай распаду сям'і, якая была надзвычай актуальная ў вышэйшых слаях грамадства тае пары. Аўтарская пазіцыя філосафа публіцыстычная, завостраная. Ён звяртаецца да праблем сацыяльных, палітычных... У многім Жан дэ Лабруер набліжаецца да погляду наступнай эпохі Асветніцтва. Але нават не ўдаючыся ў літаратуразнаўча-філасофскія развагі, чытач адразу адзначыць дасціпнасць выказванняў філосафа, іх літаратурнасць, лёгкасць успрыняцця і — мудрасць.

Прапануем чытачам вытрымкі з раздзела «Характараў» Лабруера, якія называюцца «Пра жанчын» і «Пра сэрца».

Меркаванне мужчын пра вартасці якой-небудзь жанчыны рэдка супадае з меркаваннем жанчын: іх інтарэсы вельмі розныя.

Падобна таму, як рыбу трэба мераць, не прымаючы ў разлік галаву і хвост, так і жанчын трэба разглядаць, не зважаючы на іх прычоску і чаравікі.

Жанчына, у якой адзін палюбоўнік, лічыць, што яна зусім не какетка; жанчына, у якой некалькі палюбоўнікаў, — што яна ўсяго толькі какетка.

Жанчына, якая так моцна кахае аднаго мужчыну, што перастае какетнічаць з усімі астатнімі, лічыцца дзівачкай, якая зрабіла благі выбар.

Мы называем нявернай тую жанчыну, якая разлюбіла; легкадумнай — тую, якая адразу пакахала іншага; ветранай — тую, якая сама не ведае, каго яна кахае і ці кахае ўвогуле; халоднай — тую, якая нікога не кахае.

Жанчыны ні ў чым не ведаюць сярэдняга: яны або намнога горай, або намнога лепей мужчын.

Жанчыны не любяць адна адну, і прычына гэтай нелюбові — мужчына.

Пакуль каханне жывое, яно сілкуецца самім сабою, а часам і тым, што, здаецца, павінна было б яго забіваць: прыхамацямі, суровасцю, халаднасцю, рэўнасцю.

У процівагу каханню, сяброўства патрабуе догляду: яму патрэбныя клопаты, давер, паблажлівасць, інакш яно сохне.

Каханне пачынаецца з кахання; нават самае палкае сяброўства здольнае парадзіць толькі самае слабае падабенства кахання.

У сяброў мы заўважаем тыя недахопы, якія могуць пашкодзіць ім, а ў каханых тыя, ад якіх пакутуем самі.

Мы гэтак жа не можам навечна захаваць каханне, як не маглі не пакахаць.

Маркоціцца па тым, каго кахаеш, нашмат лягчэй, чым жыць з тым, каго ненавідзіш.

Калі чалавек дапамог таму, каго кахаў, ні пры якіх абставінах ён не павінен успамінаць пасля пра свае дабрадзействы.

Як ні цяжка несці бярэмя клопатаў пра чалавека бяздольнага, усё ж мы не адчуваем асаблівай радасці, калі спрыяльная перамена лёсу вызваляе яго з-пад нашага апякунства; гэтак жа наша задавальненне пры вестцы пра поспех сябра некалькі азмрочваецца лёгкай прыкрасцю, што зараз ён узвысіцца над намі ці зробіцца нам роўным. Такім чынам, мы жывём у вечным разладзе з сабою: нам патрэбныя людзі, залежныя ад нас, але мы не жадаем дзеля іх лішніх клопатаў; мы жадаем удачы нашым сябрам, але, калі яна прыходзіць да іх, першым нашым пачуццём далёка не заўсёды бывае захапленне.

## ВУЧЫМСЯ

### Культура мовы

Павел СЦЯЦКО

# Вавёрка, вавёркавы, вавёрчын — а не белка, белчын

«Беларуска-расійскі слоўнік» М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926) фіксуе: «Вавёрка ж. — белка (с. 54). «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі (М., 1953) таксама перакладае: «Белка — вавёрка, -кі ж.; беличий — вавёрачны, вавёркавы» (с. 31). У трохтомным перавыданні бачым тое самае: «Белка — вавёрка, -кі ж.; беличий — вавёркавы, вавёрчын; беличья шуба — вавёркавае футра; беличье гнездо — вавёрчына гнязда» (Мн., 1993, т.3, с.88). І ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (т. 1., Мн., 1977, с.447): «Вавёрка. Звярок, які жыве ў дуплах дрэў// Футра, шкурка гэтага звярка. Вавёркавы — зроблены з шкуркі вавёркі. Вавёркавае футра. Вавёрчын. Які мае адносіны да вавёркі, належыць вавёрцы. Вавёрчына гняздо. Вавёрчыны сляды». Слова «белка» ў гэтым слоўніку не фіксуецца. А вось у «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К.Крапівы (Мн., 1962) бачым, апроч натуральнага: «**Вавёрка** ж. (зверёк и его мех) белка, **вавёркавы** (из беличьего меха) беличий; **вавёрчын** — беличий (с. 140—141) і вось гэтакае: *белка* ж. заол. белкі; *белчын* беличий (с. 123). Гэтую самую трасянку падае і двухтомнае перавыданне «Беларуска-рускага слоўніка» (Мн., 1988, т.1, с.182 і 212) пад той самай рэдакцыяй К.Крапівы.

Дык дзе лексічная норма? Ці яе знарок разбураюць? Тут поўнасцю трэба пагадзіцца з «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы», які лексічнай нормай прызнае толькі слова **вавёрка**, і вытворныя ад яго прыметнікі **вавёркавы і вавёрчын**. Гэтае нормы трымаюцца і ўсе перавыданні «Русско-белорусского словаря». У самых апошніх — чацвёртым (1993) і пятым (1994) выданнях бачым: «Белка — вавёрка, -кі ж., беличий — вавёркавы, вавёрчын; беличья шуба — вавёркавае футра; беличье гнездо — вавёрчына гняздо» (т.1, с.88). І перыядычнаму друку трэба гэтым кіравацца.

## Дарэчы

# Магія назвы

Хоць чалавек і лічыцца самай разумнай істотай, але, аказваецца, што 90 працэнтаў у яго ўсё ж пераважаюць пачуцці, а розум адпаведна — 10 працэнтаў. У такой жа прапорцыі ўспрымаецца і слова. Гэта добра навучыліся выкарыстоўваць спецыялісты па рэкламе. Класічны прыклад, што адбываецца, калі не ўлічваецца такая акалічнасць, — няўдача Генры Форда з новай мадэллю аўтамабіля, на якую былі затрачаны вялізныя грошы. Здавалася б, ужо адна марка фірмы здольная пераканаць любога спажыўца, што ён за свае грошы абавязкова атрымае высакаякасны тавар. Але ж не, хоць Форд, які яшчэ ў мінулым стагоддзі ператварыў сваю кампанію «Форд матор» у сімвал амерыканскай надзейнасці, стаў заканадаўцаю аўтамабільнай моды для мільёнаў аўтааматараў.

Фірма Форда год за годам атрымлівала стабільны немалы прыбытак, але стары магнат адчуваў, што хутка яго пачнуць абганяць больш спрытныя маладыя канкурэнты. Вось тады і вырашана было стварыць новы аўтамабіль, больш сучасны не толькі па тэхнічных характарыстыках, але і па выгляду, дызайну. Усё, здаецца, атрымалася як мае быць, і задаволены магнат вырашыў назваць новы аўтамабіль імем свайго малодшага сына — Эдсель. Псіхолагі папярэдзілі Форда, што такая назва будзе немілагучнай для амерыканскага вуха, а гэта абавязкова скажацца на прыбытках фірмы. Перакананы ў сваёй магутнасці магнат адмахнуўся ад перасцярог, у чым Форда падтрымала і ягоная сям'я.

Але дарэмна завіхаліся прадаўцы, заманьваючы пакупнікоў на фордаўскае новае цуда — публіка машыну прымаць не пажадала. Вялікім прыніжэннем для ганарыстай сям'і Фордаў было даведацца, што амерыканцы сапраўды палічылі, што імя Эдсель не падыходзіць для назвы аўтамабіля, няхай сабе і фордаўскага. Гэта машына стала самым вялікім правалам у гісторыі фірмы «Форд матор».

Так што да назвы, у тым ліку тавара, трэба ставіцца вельмі ўважліва. Гэта не такая простая справа, як можа падацца, калі трэба лічыцца з густамі мноства людзей. Вось чаму спрактыкаваныя заходнія прадпрымальнікі, даючы назву свайму тавару, прытрымліваюцца наступных правілаў:

— Назва павінна лёгка запаміналца;

— быць арыгінальнай і не супадаць з назвамі іншых тавараў;

— прысвойваючы тавару абрэвіятуру, прыкідваюць, ці лёгка яна будзе чытацца;

— стараюцца пазбягаць назваў з «імпартных» слоў, не ведаючы ўсіх нюансаў іхняга перакладу; пры гэтым улічваючы разнастайныя «слэнгавыя» сітуацыі, калі нейкае бяскрыўднае, здавалася б, слова можа выкарыстоўвацца нейкай сацыяльнай групай у якасці «брыдкага»;

— у славянскіх мовах рэкамендуецца пазбягаць шматлітарных абрэвіятур з вялікай колькасцю зычных. Гэтым недахопам звычайна валодаюць назвы канверсійных тавараў, несучы ў сабе адбітак ранейшай сакрэтнасці, зусім не разлічанай на нейкую рэкламу;

— пазбягаюць прыгнятаць пакупніка сваёй эрудыцыяй. Нездарма здавён кажуць: усё геніяльнае — простае.

А.З.

## ACADEMIA «NS»

### Гісторыя моваў на Беларусі

Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,
кандыдат філалагічных навук

# Беларуская мова

(Працяг.)

*«...а в пятом року почато ме бавить наукою рускою, кгдыж в тых часех в тэй нашей строне не было еще иных наукъ и для того ж пришло ми зостать з рускою и полскою наукою...»*
**Фёдар ЕЎЛАШОЎСКІ.** *Гістарычныя запіскі.*

## Беларуская мова ў школах Вялікага Княства Літоўскага

Разгледзеўшы моўныя асаблівасці важнейшых груп старабеларускіх пісьмовых помнікаў, мы бачым, што хоць за ўвесь старажытны перыяд беларускай мовы і не было створана па ёй ніводнага дапаможніка («У рускай мове да нашага веку не было граматыкі, не было таму правілаў мовы», — пісаў польскі гісторык Тадэвуш Чацкі), аднак наяўнасць комплексу правілаў пісьма, якія адрозніваюць беларускую мову ад іншых славянскіх моваў і якіх прытрымліваліся практычна ўсе пісцы незалежна ад жанру пісьмовых твораў і іх асабістых густаў, можна гаварыць аб адзінай **школе** гэтай пісьменнасці, а значыць, і аб функцыі старабеларускай літаратурнай мовы як прадмета **школьнага выкладання**.

Развіццю школьніцтва на Беларусі ў старажытнасці садзейнічала пранікненне ў наш край ідэй гуманізму з яго культам адукаванай і маральнай асобы. Гандлюючы за мяжой княства, нашыя купцы знаёміліся з заходнееўрапейскай культурай, прывозілі ў Беларусь гуманістычную і рэфармацыйную літаратуру. Па дарогах, пракладзеных купецкімі караванамі, беларуская моладзь накіроўвалася працягваць адукацыю ва універсітэтах Прагі, Кракава, Кёнігсберга, Вюртэмберга, Лейпцыга, Падуі, Балоньі. Тут яна аказвалася ў цэнтры ажыўленых дыскусій і гэалагічных спрэчак, усмоктвала, як губка, усё новае, перадавое. Вяртаючыся на радзіму, маладыя адукаваныя людзі папаўнялі кадры айчыннай культуры, у тым ліку і школьнай адукацыі, неслі атрыманыя веды ў народ. Важнасць вывучэння беларускай мовы дыктавалася не дзяржаўнасцю ў Вялікім Княстве Літоўскім. Вывучэнне мовы карэннага насельніцтва славянскіх зямель княства стымулявалася і існаваўшай у нас здаўна шматканфесійнасцю грамадства, прадстаўнікі розных канфесій, змагаючыся за паству, мусілі звяртацца да яе на яе роднай мове.

**Праваслаўныя школы.** Праваслаўная царква на Беларусі — адна з асноўных хрысціянскіх канфесій разам з каталіцкай. З'явілася на нашых землях у канцы X ст. у час увядзення хрысціянства ва ўсходніх славян. Гэта была адна Кіеўская мітраполія. Нягледзячы на тое, што пасля Крэўскай уніі 1385 г. у Вялікім Княстве Літоўскім пачаў насаджацца каталіцызм, праваслаўныя храмы ў нас пераважалі над каталіцкімі, асабліва на ўсход ад лініі Браслаў — Паставы — Вілейка — Менск — Нясвіж — Пінск, дзе касцёлаў было толькі па аднаму — у Полацку і Віцебску і нават каталікі пераходзілі ў праваслаўе. Нават на захад ад указанай лініі ў Навагрудку быў 1 касцёл і 10 цэркваў. Да канца XVI ст. праваслаўная царква Вялікага Княства Літоўскага захоўвала незалежнасць ад канстанцінопальскага патрыярха. Праваслаўныя школы пашыраліся выключна сярод беларусаў, як феадалаў, так і сялян. Спачатку яны адкрываліся пры цэрквах і манастырах (гэта былі так званыя **парафіяльныя** школы). У іх вучылі чытаць, пісаць і маліцца на царкоўнаславянскай і беларускай мовах. Навучанне вялося ўасноўным па псалтыру — біблейскай кнізе, якую высока цаніў Францішак Скарына, выдаўшы таму не першай у Празе ў 1517 г.

У 2-й палове XVI ст. узнікаюць праваслаўныя царкоўныя брацтвы — нацыянальна-культурныя і дабрачынныя арганізацыі, якія бяруць на сябе клопаты аб занепадаючай пасля страты ёю статуса дзяржаўнай у княстве царкве. Брацтвы існавалі ва ўсіх буйных гарадах (у вялікіх — па некалькі), адкрывалі свае **брацкія** школы (другая разнавіднасць праваслаўных школ пасля парафіяльных), друкарні, кнігі ў якіх выдаваліся кірылічнай азбукай. Брацтвы адыгралі значную ролю ў пашырэнні і дэмакратызацыі адукацыі. Іх школы былі агульнадаступнымі навучальнымі ўстановамі. Першыя з гэтых школ былі адкрыты ў Вільні, Магілёве, Берасці, Менску, Пінску, Слуцку і іншых гарадах. У іх вывучаліся царкоўнаславянская, грэцкая, беларуская, лацінская і польская мовы. Адкрываючы ў 1588 г. у Вільні брацкую школу, патрыярх Ярэмій назваў яе школай «мовы грэцкай, лацінскай і рускай (г.зн. беларускай)». У 1589 г. кароль Жыгімонт III, дазваляючы брацкую школу ў Вільні, гаворыць аб мовах «рускай, грэцкай» і інш. Ён жа дае ў гэты час дазвол на друкаванне беларускіх кніжак. Парадак выкладання моваў у брацкіх школах быў наступны: царкоўнаславянская, грэцкая, руская (беларуская).


AD. STANKIEWIČ

Biełaruskaja mowa ŭ škołach Biełarusi XVI i XVII st.

Wilnia — 1928 h.
Wydawiectwa „BIEŁARUSKAJE KRYNIĆY"

**Каталіцкія школы.** Ягайла, уступіўшы ў шлюб з польскай каралевай Ядзвігай, абавязаўся схіліць у каталіцызм народы Вялікага Княства Літоўскага. Сам прыняўшы каталіцызм, ён прывёз у Літву служыцеляў каталіцкага культу. «И оттоле начал крестити Литву в латынскую веру. И прислал арцыбискуп бискупа к Вильни в Литовскую землю и тогда начаша ставити костелы въ всеи Литовскои земли», — так піша аб гэтым летапіс Аўраамкі. Да сярэдзіны XVI ст. Віленскаму біскупству належала 285 вёсак і 16 мястэчак, у якіх пражывала 40 тысяч жыхароў. Дзве трэці гэтых уладанняў размяшчалася ў асноўным у паўночна-заходніх раёнах Беларусі.

Пашырэнне каталіцкіх школ на Беларусі прыпадае на XVI ст. У гэты час яны былі адкрыты ў Гаеве Барысаўскага, Мастах Лідскага, Трабах Ашмянскага, Старжыне (Старыне?) Менскага, Іказні, Задарожжы і Друі Дзісенскага паветаў, а таксама ў Ляхавічах, Магілёве, Лагойску, Вялікай Бераставіцы, Юхнавічах, Гародні, Заблудаве, Дунілавічах і інш. У гэтых школах, аднак, чытаць, пісаць і маліцца вучылі пераважна палякі, студэнты з Кракава. У XVI ст. вышэйшыя пасады ў каталіцкай царкве на Беларусі займалі пераважна беларусы. У канцы XVI ст. Віленская капітула выразіла пратэст каралю з прычыны прызначэння віленскім біскупам паляка. Да сярэдзіны XVI ст.і далей каталіцкае духавенства на землях Вялікага Княства ва ўрадавай перапісцы карысталася беларускай мовай. Па-беларуску напісаны прывілей Віленскай капітуле 1567 г. Беларускі філасаф XVI ст. Міхалон Літвін у сваёй кнізе «Аб норавах літоўцаў, татар і маскавітаў» піша, што ў Літве «навучаюцца рускай мове». Напэўна, беларуская мова як асобны прадмет у каталіцкіх школах не выкладалася, аднак на ёй у многіх выпадках размаўлялі паміж сабой настаўнікі і вучні і таму яе ведалі.

*(Заканчэнне будзе.)*

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІКСІНОНІМАЎ

1. **ПЕРАСЯГНУЦЬ** (выявіць перавагу над кім-, чым-н. у якіх-н. адносінах) *Ён [Якуб Колас] перасягаў маладзейшых і ў жартах, і ў экспромтах, і ва ўдалых тостах* (Пужанін), **ПЕРАЎЗЫСЦІ** *Я зразумеў бы як метал куецца, Пераўзышоў бы спрытам і музык, Але агонь у рукі не даецца, Смяецца і — паказвае язык!* (Гаўрусёў). *У іх [беларускіх казках пра жывёл] чалавек ужо мацнейшы за звяроў, ён пераўзыходзіць іх сваім жыццёвым вопытам і ведамі* (Саламевіч), **ПЕРАЙСЦІ** разм. *Іграць жа хлопец умеў так, што бацьку і дзеда перайшоў* (Гарэцкі), **ПЕРАВЫСІЦЬ** *Пісьменнік заклікаў сваю духоўную брацію перавысіць па сіле і бляску паэтычнага майстэрства аўтараў свецкіх* (Майхровіч). **ЗАЦЬМІЦЬ** узмацняльнае *Фельдфебель не мог адразу ачуняць ад такога геройства бацькі і зацьміць яго прыкладам яшчэ большай мужнасці* (Брыль). *Не, цяпер яна [Ганна] не хацела б жыць з Андрэем. Рыгор зацьміў яго сабою* (Гартны). **ЗАСЛАНІЦЬ** узмацн. *Іншае, моцнае і радаснае пачуццё засланіла на момант усё астатняе* (Якімовіч). *За граніцу траплялі — Задыхаліся песні ад суму, Венскі лес нам не мог Засланіць беларускага гаю* (Панчанка), **ПЕРАПЛЮНУЦЬ** разм. *У яго, Баранава, ёсць ужо бюст Агрыпіны. Цяпер ён пераплюне і Юсупава з яго «ступою» і Шарамецева з ягонай славутай пампейскай «Козачкай»* (Караткевіч), **ЗАТКНУЦЬ ЗА ПОЯС** *каго;* разм. *Ого, у свае 17 гадоў яна [Кася] магла ўжо заткнуць за пояс нават некаторых і вельмі модных мястэчковых швачак!* (Васілевіч), **ПАДЦЕРЦІ** (або **УЦЕРЦІ**) **НОС** *каму;* разм. *Абураны кіраўнік самадзейнасці даказваў, што наогул ніякай эстрады не было, — у яго падрыхтаван свой канцэрт, якім можна падцерці нос любым артыстам* (Корбан). *Трактарысты аказаліся хлопцамі спраўнымі. Алёшу нос уцёрлі* (Лобан), **НАСТАВІЦЬ НОС** *каму;* разм. *[Федзя:] — Даю галаву на адсячэнне, што мы наставілі сёння нос альшанаўцам* (Васілёнак), **ДАЦЬ ФОРУ** *каму;* разм., адабральнае *Наступаюць мае вучні мне на пяты, у тым-сім ужо фору даюць свайму настаўніку* (Гіль). — *Незак.:* **Перасягаць, пераўзыходзіць, пераходзіць, перавышаць, зацьмяваць, засланяць, пераплёўваць, затыкаць за пояс, падціраць** (або **уціраць**) **нос, настаўляць нос, даваць фору**.

**Перасягнуць 1**.

Гэтаму вялікаму і разнастайнаму беларускаму сінанімічнаму раду ў англійскай мове знаходзім наступныя адпаведнікі: **outdo, outclass, outshine, outstrip** і разм. **go one better**. Лёгка заўважыць структурнае падабенства першых чатырох адзінак: усе яны пачынаюцца аднолькава — з прэфікса **out-**, які семантычна адпавядае бел. прыстаўцы **пера-**, неаднаразова паўторанай і ў паданым беларускім сінанімічным радзе. Пры іхнім структурным падабенстве англійскія сінонімы крыху розняцца паміж сабою. Так, першыя два дзеясловы — outdo, outclass у агульнае значэнне «пераўзысці» ўключаюць яшчэ і ўзмацняльны кампанент «значна».

2. **ПЕРАСЯГНУЦЬ** (аказацца большым за каго-, што-н. па памеры, колькасці і пад.) *Ураджай клубняў у нашым калгасе ўжо даўно перасягнуў за 200 цэнтнераў з гектара* (Кунашка), **ПЕРАЎЗЫСЦІ** *Маштабы ўсенароднага бедства пераўзышлі тыя жахі, якія малявала ўяўленне* (Гаўрусёў), **ПЕРАВЫСІЦЬ** *Так паступова расла колькасць сабраных М.М.Чуркіным запісаў беларускіх народных песень, якая з цягам часу перавысіла дзве тысячы* («Полымя»). — *Незак.:* **Перасягаць, пераўзыходзіць, перавышаць.**

**Перасягнуць 2**.

Адпаведны сінанімічны рад у англійскай мове мінімальны: **exceed, top**. Як адзначалася раней, англ. сінанімічныя рады часта ўзнікалі і пашыраліся дзякуючы запазычанням з іншых моваў. Так і ў дадзеным выпадку дзеяслоў **exceed** быў запазычаны з французскай мовы.

3. **ПЕРАСЯГНУЦЬ** (выйсці ў чым-н. за якія-н. межы, нормы, даўшы больш высокія паказчыкі) *Дастаткова сказаць, што ўзровень вытворчасці мяса і малака, атрыманы ў папярэднім годзе, быў перасягнуты ўсяго за дзесяць месяцаў* (Герасімёнак), **ПЕРАЎЗЫСЦІ** *Мы ўпэўнены, што многія нашы гаспадаркі значна пераўзыдуць указаны ўзровень вытворчасці ў самыя бліжэйшыя гады* («Звязда»), **ПЕРАВЫСІЦЬ** *Прарыў у кавальскім цэху знішчылі. Нават перавысілі лічбы вытворчасці* (Чорны), **ПЕРАКРЫЦЬ** разм. *Вядома, калі б не ён, не Сцяпан, няўжо брыгада на столькі перакрыла б норму* (Гроднеў), **ПЕРАЦЯГНУЦЬ** разм. *Выходзіла, што ў выгарскай аўтакалоне і яшчэ адзін чалавек — пасля Рэвы — перацягнуў за норму, і на «чугрэі»* (Пташнікаў). — *Незак.:* **Перасягаць, пераўзыходзіць, перавышаць, перакрываць, перацягваць.**

## Збіраем матэрыялы для «Крыўскай»(Беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі

**БАЙ**. Слова, як і шмат іншых слоў, што звязаны з нашай міфалогіяй, захавалася толькі ў дзіцячым фальклоры. З вядомай дзіцячай забаўлянкі: «Бегаў бай па сцяне ў чырвоным каптане» цяжка вызначыць функцыю гэтай міфалагічнай істоты. Верагодна, гэта было імя бога красамоўства, чарадзейных замоваў, аповяду.

**БАЛАБАН**. Паводле «Этымалагічнага слоўніка рускай мовы» Макса Фасмера балабан — «вялікі лоўчы сокал Falco lanarius», або «сокал Falco nobilis». Як вядома, лацінскае слова нобіліс азначае 'радавіты; арыстакрат'. Таму і сокал-балабан — сокал з сокалаў, нобіль з нобіляў. Мабыць, яго можна атаесамляць з Рагатым Сокалам у былінах — (салаўём) і, як падаюць В.Іваноў і В.Тапароў, з богам Воласам (Велесам). Дарэчы, сокал ушаноўваўся яшчэ ў старажытным Егіпце. Адно з боствам — **Гор** (што азначае *вышыня, неба*) — уяўлялася ў выглядзе сокала, чалавека з галавой сокала або крылатага сонца. Ягоны сімвал — сонечны дыск з расхінутымі крыламі. Падобны знак мелі за татэмны знак бодрычы. Гэты знак пад назвай «Сокал» быў знакам (гербам) Рагнедзіных сыноў — Яраслава Мудрага (адбіты на раверсах ягоных манетаў) і Ізяслава (на ягонай пячатцы). Вядомы ён і з манет Вітаўта (т.зв. «калюмны»). Бодрычы — заходнія славяне, што насялялі ўзбярэжжа Мекленбургскай затокі на Венедскім (Балтыйскім) моры і пэўны час стаялі на чале саюза палабскіх славянскіх плямёнаў. Ім належалі гарады Рацібор, Старгард і Рарог. Бодрычаў называлі яшчэ і рарогамі. Рарог жа паводле «Мифологического словаря» — вогненны дух, ён уяўляўся ў вобліку драпежнай птушкі (па-чэшску рарог — сокал). Аўтары нататкі пра рарога мяркуюць, што гэты міфалагічны вобраз генетычна звязаны з Сварогам, а таксама з іранскім боствам Ператрагнай, адна з інкарнацый якога — сокал. Цікава, што Ф.Корш, які даследаваў «Слова пра паход Ігараў», назву балабан звязваў з іранскім pählävan. Значэнне апошняга, відаць, падобнае на капчацкае балабан 'сокал', казахскае балапан 'птушаня'.

**БАРАБАХА**. Так паводле казкі «Пра ведзьму, што дзеўку з'ела» называлася міфічная людаедка. Такія істоты даволі рэдка сустракаюцца ў славянскім фальклоры (запісана казка Міхалам Федароўскім у в. Ганчары Ваўкавыскага павета). Незвычайным у гэтым народным творы ўяўляецца прысутнасць трох коней: белага, сівога і чорнага, што наогул у нашай міфалогіі сімвалізуюць дзень, світанак або сутонне, ноч. У казцы — дзень, змрок і ноч ведзьмы Барабахі. Вельмі верагодна, што ў ведзьму з такім імем трансфармавалася нейкае боства, звязанае з сонечным культам.

**З.СІЦЬКА.**



Знак «Сокал» (трызуб) на малым срэбраніку Яраслава. Рэверс.

На ілюстрацыі да арт. «Балабан» — знак «Сокал» (трызуб) на рэверсе малога срэбраніка Яраслава Мудрага.

### Замежны дэтэктыў

Пісталет быў упэўнена нацэлены на мяне.

Мяне здзівіла ўласная вытрымка, калі я даведаўся, навошта ён апынуўся ў маім кабінеце.

— Мне б не хацелася паміраць у няведанні, — сказаў я. — Хто вас наняў?

— Відаць, ваш вораг?

— Я не ведаю такіх ворагаў. Гэта мая жонка?

— Трапілі ў дзесятку. — Ён усміхнуўся. — А яе матывы досыць зразумелыя.

— Так. — Я ўздыхнуў. — У мяне ёсць грошы, якія яна не супраць ухапіць. Зразумела, усе і без мяне.

Ён агледзеў мяне з галавы да ног.

— Колькі вам гадоў?

— Пяцьдзесят тры.

— А вашай цяперашняй жонцы?

— Дваццаць два.

Ён шчоўкнуў языком.

— Містэр Вільямс, у такой сітуацыі цяжка разлічваць на пастаянства.

— Праз пару гадоў я даў бы развод. Маёй жонцы перапала б кругленькая сума.

— Вы недаацэньваеце яе апетыты, містэр Вільямс.

Мой позірк слізгануў па пісталету.

— Мяркую, вам ужо даводзілася забіваць людзей?

— Было.

— Відаць, гэта вам падабаецца?

— Так, не без таго.

Я вельмі ўважліва прыглядзеўся да яго.

— Вы тут ужо болей за дзве хвіліны, а я ўсё яшчэ жывы.

— Нам няма куды спяшацца, містэр Вільямс, — мякка адказаў ён.

— Разумею. Сам момант забойства не такі важны. Галоўнае для вас — прэлюдыя, паглядзець, як дрыжыць ахвяра.

— Вы вельмі здагадлівы, містэр Вільямс.

— Значыць, я застануся жывы, пакуль вам не надакучыць мая кампанія.

— Так, хоць мы і абмежаваныя часам.

— Я зразумеў. Жадаеце чаго-небудзь выпіць, містэр...

— Сміт. Гэта імя лёгка запамінаецца. Так, з задавальненнем. Але станьце так, каб я мог сачыць за вашымі рукамі.

— Няўжо вы думаеце, што я трымаю пад рукой атруту?

— Не, але тым не менш магчыма і такое.

Ён назіраў, як я наліў два бакалы, узяў свой і сеў на канапу.

— Дзе зараз мая жонка?

— У гасцях, містэр Вільямс. І добры тузін людзей пацвердзіць пад прысягай, што яна не вінаватая.

— Мяне заб'е злодзей?

Ён паставіў бакал на столік паміж намі.

— Так. Пасля вашай смерці я памыю бакал і прыбяру яго ў бар. А перад тым, як знікнуць, сатру ўсе адбіткі пальцаў.

— Прыхопіце з сабою пару рэчаў? Каб пацвердзіць версію грабяжу?

— Гэта не абавязкова, містэр Вільямс. Паліцыя прыйдзе да высновы, што, застрэліўшы вас, злодзей нечага спалохаўся і пакінуў кватэру з пустымі рукамі.

— Гэта карціна на ўсходняй сцяне каштуе трыццаць тысяч долараў.

Ён зірнуў на карціну, і адразу ж ягоны позірк вярнуўся да мяне.

— Вы мяне спакушаеце, містэр Вільямс. Але я не хачу, каб вашу пагібель звязалі са мной. Мяне захапляюць творы мастацтва, асабліва я паважаю іхнюю матэрыяльную каштоўнасць, але не настолькі, каб трапіць з-за гэтага на электрычны стул. — Ён усміхнуўся. — Ці вы хочаце прапанаваць мне гэтую карціну ў абмен на ваша жыццё?

— Менавіта пра гэта я і падумаў.

Ён паківаў галавой.

— Вельмі шкадую, містэр Вільямс. Калі я прыняў заказ, то павінен яго выканаць. Гэта пытанне прафесійнага гонару.

Я паставіў бакал на столік.

— Вы спадзяецеся ўбачыць ува мне прыкметы страху, містэр Сміт?

— Уся справа ў напружанні, ці не так, містэр Вільямс? Адчуваць страх і не адважвацца яго выказваць.

— Вы прывыклі да таго, што ахвяры моляць вас аб літасці?

— Так. Кожная па-свойму.

*Джэк РЫТЧЫ*

## Важкія доказы

— Прапануюць вам грошы?

— Вельмі часта.

— Што таксама не мае сэнсу?

— Так было да цяперашняга, містэр Вільямс.

— За гэтай карцінай — патаемны сейф, містэр Сміт.

Ён зноў зірнуў ва ўказаным напрамку.

— Дык што?

— У ім пяць тысяч долараў.

— Гэта добрыя грошы, містэр Вільямс.

Я ўзяў свой бакал і пайшоў да сцяны. Адчыніўшы сейф, я дастаў карычневы канверт, дапіў віскі і, паставіўшы бакал унутр, зачыніў дзверцы.

Погляд Сміта затрымаўся на канверце.

— Калі ласка, прынясіце яго сюды.

Я паклаў канверт на столік, побач з бакалам.

— Няўжо вы спадзяецеся выкупіць сваё жыццё? — хмыкнуў Сміт.

Я закурыў.

— Не. Наколькі я зразумеў, вы непадкупны.

— Тады навошта вы прынеслі мне гэтыя пяць тысяч?

Я высыпаў на столік начынне канверта.

— Гэта старыя квіткі. Яны не ўяўляюць для вас ніякай каштоўнасці.

Ягоныя шчокі імгненна паружавелі ад абурэння.

— Навошта ўвесь гэты балаган?

— Я атрымаў магчымасць падысці да сейфа і паставіць у яго ваш бакал.

Вочы Сміта зыркнулі на бакал, які стаяў на століку.

— Вось мой бакал.

Я ўсміхнуўся.

— Ваш — у сейфе, містэр Сміт. І паліцыя, несумненна, пацікавіцца, чаму там стаіць пусты бакал. А даўмецца да таго, каб зняць адбіткі пальцаў, не так ужо і складана, асабліва пры расследванні забойства.

Сміт пабляднеў.

— Я ні на секунду не зводзіў з вас вачэй. Вы не маглі памяняць бакалы.

— Не? Але як мне памятаецца, вы двойчы глядзелі на карціну.

Рэфлектарна ён зірнуў на яе ў трэці раз.

— Я глядзеў на яе не больш адной ці дзвюх секунд.

— Гэтага было дастаткова.

Ён дастаў з кішэні насавую хусцінку і выцер потны лоб.

— Я ўпэўнены, што вы не маглі памяняць бакалы.

— Тады, верагодна, вас вельмі здзівіць візіт паліцыі. А праз некаторы час вам прадаставіцца магчымасць сканаць на электрычным стуле. І вы ўдосыць адчуеце смак чакання смерці.

Ён узняў пісталет.

— Цікава, — працягваў я, — як вы сканаеце? Відаць, вы ўяўляеце, што спакойна падыдзеце да стула і з гонарам сядзеце на яго? Наўрад ці, містэр Сміт. Вас хутчэй за ўсё пацягнуць на яго сілком.

— Адчыніце сейф, а не тое я вас заб'ю, — вызверыўся ён.

Я засмяяўся.

— Годзе, містэр Сміт. Мы абодва ведаем, што вы заб'еце мяне, калі я адчыню сейф.

Наступіла доўгая паўза.

— Што вы збіраецеся рабіць з бакалам?

— Калі вы мяне не заб'еце, я ўсё больш схіляюся да думкі, што аддам яго ў прыватнае дэтэктыўнае агенцтва і папрашу сфатаграфаваць адбіткі пальцаў. Фатаграфіі і запіску, дзе будзе тлумачэнне іх з'яўлення, я запячатаю ў канверт. І пакіну інструкцыі, згодна якіх у выпадку маёй прымусовай смерці канверт перададуць у паліцыю.

Сміт глыбока ўздыхнуў.

— Гэта ўсё лішняе. Зараз я пайду, і вы мяне ніколі не ўбачыце.

Я паківаў галавою.

— Не, мне даспадобы свой план. Мне хацелася б абараніць сябе і на будучае.

Ён задумаўся.

— А чаму вы не хочаце звярнуцца ў паліцыю?

— На тое ёсць свае прычыны.

Ён сунуў пісталет у кішэню, і тут да яго дайшло.

— Ваша жонка можа наняць другога забойцу.

— Так, гэта магчыма.

— А абвінавацяць у смерці мяне. І я траплю на электрычны стул.

— Хутчэй за ўсё так і будзе. Калі толькі... — Сміт глядзеў мне ў рот. — Калі толькі наняць другога забойцу ёй не ўдасца.

— Але ж ёсць не менш дзесятка спосабаў... — ён замоўк і я заахвочвальна ўсміхнуўся.

— Мая жонка сказала вам, куды яна паехала?

— Да Петэрсанаў. Яна збіралася вярнуцца пасля адзінаццаці.

— Адзінаццаці? Вельмі падыходзячы час. Ночы цяпер цёмныя. Вы ведаеце, дзе жывуць Петэрсаны?

— Не.

— У Брыджхэмптане, — я даў яму адрас.

Сміт павольна зашпіліў паліто.

— А дзе вы будзеце ў адзінаццаць гадзін, містэр Вільямс?

— У сваім клубе. Буду гуляць у карты з сябрамі. Само сабой, яны будуць сардэчна суцяшаць мяне, калі я атрымаю жалобныя звесткі пра тое, што маю жонку... застрэлілі?

— Усё будзе залежыць ад канкрэтнай сітуацыі, — ён скупа ўсміхнуўся і выйшаў з кабінета.

Пасля знікнення Сміта я ўзяў бакал са століка, завёз яго ў дэтэктыўнае агенцтва і накіраваўся ў клуб. Сейф я нават не адчыняў.

*Пераклад з англійскай мовы.*

### УРАЖАННІ

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

## Разумная рыба

— Ляшчы разумнейшыя за нас. Хітрая рыба! Ведаеш, як яны сеткі мінаюць, калі ідуць на нераст? Наперад пашлюць самых вопытных, так сказаць, разведчыкаў. Тыя да сеткі падплываюць, пластом кладуцца на бок, потым становяцца на рабро, ніжнюю ў сетцы вяроўку падымаюць спіною: калі ласка, праходзьце, сябры. Ну, рыбакі і застаюцца з нічым. Увесь касяк свабодна праходзіць.

## Аўдоццін хлеб

— Бог адным боханам усіх людзей накарміў. А я ў вайну ўсю вёску карміла мохам. Неяк пайшла ў лес. Думаю: які грыб падыму. Але як той грыб вырасце, калі яшчэ вясна. Зайшла ў балотца, бачу: які чысценькі і беленькі машок пад нагамі. Дай, думаю, я яго наскубу, высушу і ў жорнах змялю. Наскубла, высушыла, змалола. Ну, што ні ёсць мука! Пшанічная! У дзяжу насыпала, развяла ў вадзе, замясіла, на патэльню лінула — эх, смачны пах з печы ідзе.

У абед, на полі, дастаю, ем — села на самае віднае месца. Жанкі вочы вылупілі — вачыма мой хлеб ядуць. «Аўдоцця, што гэта ты жуеш?» Дала ім паспытаць. Спадабаўся мой хлеб. «Дзе ўзяла? Дзе дастала?» На балоце, кажу. Назаўтра ўсе махавікоў напяклі. Не тое. Смак не той. Зноў: «Кажы, дзе мох брала?» Павяла іх у тое балотца. Усю вайну гора не ведалі. Былі з хлебам.

Думаеш, аддзякавалі? Наадварот, клянуць. Жываты баляць ва ўсіх. Ад майго хлеба, кажуць. Ад моху.

## Цанаванне

— Цяпер не так проста купіць у вёсцы дом. А тут выпадак падвярнуўся. Прыехаў я, а гаспадыні дома няма. Паехала да сястры. У яе і жыве. Ну, далі ёй тэлеграму, каб прыехала, бо я, пакупнік, знайшоўся. Прыехала. Паздароўкаўся я з ёю, чакаю, што скажа. А яна маўчыць. Тут трэба было ёй сказаць, што яе дом на беразе рэчкі стаіць. Лес пад бокам. Так што і рыба, і грыбы будуць. Агарод, сад. Лепш не прыдумаеш. Але бабулька маўчыць, толькі лыпае на мяне. «Калі прадасце, куплю», — сказаў ёй. «А не падманіш?» Гэта яна. «Як жа я магу падмануць?» — спытаў я. «А можа мала заплаціш». «Гледзячы, за якую цану». «За якую?» — пачала думаць. Тут я збянтэжыўся. Думаю, такую загне цану, што ў мяне вочы на лоб палезуць. «А ты сам прызнач цану», — кажа бабуля. Я тут і зусім разгубіўся. «Не, лепш вы назначайце». Гэта я ёй. «Ой, не ведаю. Скажу, а ты спалохаешся». «Не спалохаюся, кажыце». Яна апусціла галаву і так ціха: «Пяцьсот тысяч рублёў». «Пяцьсот тысяч?» — не паверыў я. «Калі многа, дык я і за трыста тысяч аддам!» — тут жа сказала яна. Я проста здзівіўся. А яна: «Дорага?» «Ды што вы, — кажу, — я вам за мілую душу пяцьсот тысяч аддам». Гэта таму я так зрабіў, бо бачу, што яна цэнаў не ведае. А падманваць старога чалавека не ў маім характары. Усё жыццё сумленна пражыў, дык няўжо пад старасць браць на душу грэх. «Бачу, — кажа яна, — добры ты чалавек. Не падманшчык. Жыві на здароўе». Так і жыву.

